# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

## №20

## Сьнежань 2017

*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

*Аттава, Канада*

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net



*Аттава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Наступны 21-шы нумар часопіса выйдзе ў сакавіку 2018 года*

*Прадмова рэдактара*

**Пётра Мурзёнак:**

**Часопісу “Культура. Нацыя” споўнілася 5 гадоў. Выйшаў 20-ты нумар.**

**Дарагія чытачы!**

**Рэдакцыя часопіса “Культура. Нацыя” шчыра віншуе Вас з Калядамі і Новым годам! Зычым Вам і Вашым сем'ям шчасьця, здароў'я, дабрабыту, цудоўнага настрою! Няхай гэты год будзе удачлівым, спакойным і дастойным!**

Нашаму часопісу споўнілася 5 гадоў. Так, ён быў заснаваны ў сьнежні 2012 года і ад таго часу выходзіў рэгулярна, кожныя тры месяцы, 4 нумары на год. Цяпер вы трымаеце ў руках 20-ты нумар часопіса. За пяць прайшоўшых гадоў на старонках часопіса друкаваліся арыгінальныя матэрыялы 29 аўтараў. Усяго апублікавана 119 арыгінальных артыкулаў. Агульны аб'ём часопіса склаў каля 1400 старонак, г.зн. у сярэднім кожны нумар выходзіў на 70 старонках.

Часопіс «Культура. Нацыя» зьмяшчаецца на нашым сайце www.sakavik.net , на якім мы дадаткова за пяць гадоў разьмясьцілі 936 матэрыялаў з іншых сайтаў, часопісаў і газет. У наш высокаінфармацыйны век можна знайсьці даволі шмат беларускамоўных сайтаў. Тым не менш, падаецца, што мы таксама знаходзім сваю аўдыторыю. За пяць гадоў наш сайт і часопіс наведалі больш чым 16.600 чытачоў (з больш чым 30.700 праглядамі). Мы з гонарам можам сказаць - большасьць чытачоў паходзяць з Беларусі (56.2%).

20-ты нумар часопіса па традыцыі ўключае “Стратэгію развіцьця беларускай нацыі” і пачынаецца з яе. Як мы ўжо паведамлялі, на 7-м з'ездзе беларусаў сьвету, арганізаванага Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” (Мінск, 15-16 ліпеня 2017 года), тэкст “Стратэгіі” быў распаўсюджаны сярод дэлегатаў з’езда, а ў выніковай агульнай рэзалюцыі з’езд заклікаў беларускія ўлады ўлічыць прынятыя на ім рашэньні “пры распрацоўцы дзяржаўнай Стратэгіі нацыянальнага развіцьця і ўмацаваньня незалежнасьці ў варунках зьмененых геапалітычных выклікаў”. На нядаўнім з’ездзе Таварыства беларускай мовы ў канцы кастрычніка 2017 года

тэксты “Стратэгіі” былі распаўсюджаны сярод дэлегатаў і таксама перададзены ў раённыя арганізацыі ТБМ. Мы, як і раней, запрашаем чытачоў дасылаць свае водгукі і прапановы па паляпшэньню зьместу «Стратэгіі» на адрас: chasopis.sakavik@hotmail.com. Рэдакцыя часопіса просіць арганізацыі, якія ў асноўным згодны з палажэньнямі Стратэгіі, далучацца да выкананьня яе задач.

Мной, рэдактарам часопіса, напісаны два артыкулы. Адзін з іх тычыцца далейшай распрацоўкі тэмы беларуска-украінскай або заходне-рутэнскай цывілізацыі, а другі – расказвае пра сьвядомае паўстаньне за незалежную Беларусь (Слуцкі збройны чын).

Як заўсёды парадаваў сваімі матэрыяламі сп. Сяргей Панізьнік. На гэты раз ён даслаў нататкі “Глядзіце сонцу ў вочы”, прысьвечаныя 135-годдзю нашых песьняроў, Я. Купалу і Я. Коласу, з адлюстраваньнем культурных падзей, зьвязаных з іх імёнамі, якія праходзілі ў Латвіі у міжваенны перыяд. Значную ролю ў арганізацыі гэтых падзей, адыгралі школы і установы, якія стварыў і якімі апекаваўся беларускі дзяржаўны дзеяч, Кастусь Езавітаў, і іншыя сьвядомыя беларусы, што жылі на той час у Латвіі. Думаю, што падтрымка з Латвіі тады была такой жа важнай для “беларускасьці”, як і падтрымка з-за мяжы цяпер!

Прыемнай падзеяй было атрыманьне навін з малой радзімы, ад сп. Язэпа Квача. Ён апублікаваў тры свае кнігі, “Падзісненскія прыпеўкі”, “Я вас люблю”, “Квачы Квачамі”, аўтарскія прадмовы да якіх мы ўключаем у часопіс. Тэксты саміх кніг Язэпа Квача зьмешчаны на нашым сайце www.sakavik.net у раздзеле “Літаратура”. Кнігі Я. Квача не пакінуць вас абыякавымі.

На заключэньне мы падаём пісьмо да сяброў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНІМ), у якім сп. П. Мурзёнак, старшыня гэтага Інстытута, прадстаўляе сваё бачаньне перспектываў БІНІМа на бліжэйшы час; таксама прыводзім статыстычныя зьвесткі пра беларусаў у Канадзе паводле вынікаў апошняга Перапісу-2016 і кароткую інфармацыю пра канферэнцыі, семінары, сімпозіумы, якія прайшлі ў Атаве ў кастрычніку-лістападзе 2017 года.

У канцы часопіса зьмешчаны календар важнейшых дат за 2017 год.

Прыемнага чытаньня.
*Рэдактар часопіса,*
*Пётра Мурзёнак*

*Editorial*

**Peter Murzonak: The magazine "Culture. Nation" is 5 years old.**
***(magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.5-8)***

**Dear readers!**

**The editorial board of web-magazine "Culture. Nation" sincerely wishes you**
**Merry Christmas and Happy New Year!**
**We wish you and your families happiness, health, prosperity, and good mood!**
**Let this year will be successful, calm and dignified!**

Our magazine is 5 years old. Yes, it was founded in December 2012 and it has since come out regularly, every three months, 4 issues per year. Now you are holding in your hands the 20th issue of the magazine. Over the past five years, the magazine published the original materials of 29 authors. In total, 119 original articles were published. The total volume of the magazine was about 1,400 pages, i.e., on average, each issue includes about 70 pages.

The magazine "Culture. Nation" is located on our website www.sakavik.net, where during five years we have placed 936 materials from other sites, magazines and newspapers. Currently, in the extremely informative time you may find quite a lot of Belarusian sites. Nevertheless, we believe that we also find an information space and our own audience. In less than five years, our website and magazine were visited by more than 16,600 readers (with more than 30,700 views). We are proud to say - most readers come from Belarus (56.2%).

Traditionally, the magazine includes “the Strategy of Development of the Belarusian Nation" and begins with it. As we already reported, at the 7th Congress of Belarusians of the World, organized by the Association of Belarusians of the World "Batskaushchyna" (Minsk, July 15-16, 2017), the text of the "Strategy" has been circulated to the delegates of the Congress; in the final general resolution the Congress urged the Belarusian authorities to take into account the decisions made "for the development of the state's national development strategy and the strengthening of independence in terms of changed geopolitical challenges."

At the recent congress of the Belarusian Language Society (TBM) at the end of October 2017, the texts of the "Strategy" were distributed to the delegates and also transferred to the district organizations of the TBM. As always, we invite our readers to send their comments and suggestions to improve the content of the "Strategy" at: chasopis.sakavik@hotmail.com . Editors ask organizations, who basically agree with the provisions of the Strategy, to join the implementation of its tasks.

Me, editor, wrote two articles. One of them concerns the further development of the theme of the Belarusian-Ukrainian or Western-Ruthen civilization, and the second one tells the story of a conscious revolt for an independent Belarus (Slutsk defence action).

As always we are very pleased with the materials provided by Siargey Paniznik. This time, he sent an article "See into the sun’ eyes" dedicated to the 135th anniversary of our poets Yanka Kupala and Yakub Kolas, a reflection of cultural events related to their names which took place in Latvia in the interwar period. A significant role in the organization of these events played schools and institutions that were created and patronized by the Belarusian statesman Kanstantin Ezavitau and by other conscious Belarusians who lived at that time in Latvia. Believe it! The support from Latvia at that time for Belaruskasc was quite as important as the support from abroad now!

I have got the pleasant news from my small homeland, from Jazep Kwach. Recently, he published three books, "Padzisnenskiya couplets (prypeuki)", "I love you", and Kwachy Kwachami”. We include the author’ forewords to these books in the 20th issue. We publish the texts of those books as well at our website www.sakavik.net in the "Literature" section. I believe that those publications will not leave you without any emotions.

At the conclusion, we publish a letter to the members of the Belarusian Institute of Science and Arts in Canada (BINIM), in which Dr. P. Murzionak, the President of the Institute, presents his vision of BINIM prospects for the near future; we also give a statistical information about Belarusians in Canada, based on the last Census-2016, and the summary of the conferences, seminars, symposia, held in Ottawa in October-November 2017.

At the end of the magazine the most important calendar dates for 2017 are placed.

*Wishing you pleasant reading.*
*The magazine Founder and Editor,*
*Piotra Murzionak*

*Дыскусія: “Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасьць. 2015 - 2017”*

# “СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ”

*Праект “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі” упершыню апублікаваны на старонках часопіса “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ” 6 лютага 2016 года. У першапачатковай распрацоўцы праекта прымалі ўдзел: Алена Анісім, Аляксандр Кашо, Пётра Мурзёнак, Алег Трусаў, Ірына Шумская. Рэдакцыя часопіса выказвае шчырую ўдзячнасць сп. А. Астроўскаму, сп. М. Бамбіза, сп. С. Бяспанскаму, сп. З. Гімпелевіч, сп. М. Keньку, сп. В. Панасоўскай, сп. Ю. Рапецкаму, сп. В. Станішэўскаму, сп. В. Шышко, сп. В. Якавенку, сябрам Асіповіцкай арганізацыі ТБМ за крытычныя заўвагі, дапаўненьні і праўкі па стылю і мове дакумента. Праект “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі” быў апублікаваны на старонках нашага часопіса “Культура, Нацыя” (6 лютага 2016 года), газеты “Наша Ніва” (7 лютага, з 55 каментарамі), газеты “Новы час”, на вэб-сайтах Згуртаваньня беларусаў свету “Бацькаўшчына”, Таварыства беларускай мовы, “Мы – нацыя”, “Наша зямля”, “Пагоня” (Чэхія), Belarus News. Праект абмяркоўваўся беларускай рэдакцыяй Польскага радыё (27 лютага 2016 года) і на “Белсаце” (12 сакавіка 2016 года).*

*Тэкст “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі” быў распаўсюджаны сярод удзельнікаў 7-га з’езда беларусаў сьвету, арганізаванага Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” (15-16 ліпеня 2017 года). Сп. А. Трусаў, адзін з аўтараў “Стратэгіі”, прадставіў яе асноўны зьмест на адным з паседжаньняў з’езда. У канчатковай рэзалюцыі 7-га з’езда падкрэслена неабходнасць прыняцьця стратэгіі нацыянальнага развіцьця і ўмацаваньня нацыянальнай незалежнасьці. Тэкст “Стратэгіі” быў распаўсюджаны сярод удзельнікаў XIII-га з’езда Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) і накіраваны ў раённыя арганізацыі ТБМ (29 кастрычніка 2017 года, Мінск).*

*Прадстаўлены дакумент “Стратэгіі” адкрыты для далейшай дыскусіі. Рэдакцыя часопіса просіць арганізацыі, якія ў асноўным згодны з палажэньнямі Стратэгіі, далучацца да выкананьня яе задач.“Стратэгія развіцьця беларускай нацыі” публікуецца ў кожным нумары часопіса ў скарочаным варыянце. З абгрунтаваньнем “Стратэгіі” чытачы могуць азнаёміцца ў часопісе “Культура, Нацыя”, №13, сакавік 2016, с. 27-34. Калі ласка, свае каментары і заўвагі дасылайце на адрас: chasopis.sakavik@hotmail.com*

# «СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ»

## *Мэта Стратэгіі*

**Мэтай Стратэгіі з'яўляецца пабудова нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы, у якой абсалютна роўныя правы будуць мець прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў і прадстаўнікі нацыяўтваральнага этнаса - беларусы.**

## *Задачы, які вынікаюць з характарыстыкі сучаснага стану беларускай нацыі і пастаўленай мэты*

Распаўсюджваць ідэю аб атрыманьні краінай нейтральнага стану праз правядзеньне рэферэндума і замацаваньні гэтага палажэньня ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Падтрымліваць і прапагандаваць, абапіраючыся на гістарычныя факты, ідэю аб этнічнай гістарычнай унікальнасьці беларускага народа, развіцьцё якога істотна адрозніваецца ад развіцьця народаў Расіі. Лічыць ідэю аб трыадзінстве усходнеславянскіх народаў (Беларусі, Расіі, Украіны) не адпавядаючай гістарычнай праўдзе і шкоднай.

Падтрымліваць ідэю пераемнасьці ў гістарычным развіцьці беларускай дзяржаўнасьці. Дабівацца сусветнага прызнаньня выключнай ці роўнай ролі беларускага народа ў развіцьці Вялікага Княства Літоўскага - вялікай еўрапейскай дзяржавы мінулага, на тэрыторыі якой сёньня пражываюць людзі сучасных незалежных краін, Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны і Расіі. Першыя княствы на тэрыторыі Беларусі, Вялікае Княства Літоўскае, станаўленьне (БНР, БССР) і здабыцьцё незалежнасьці Рэспублікі Беларусь - усе гэтыя перыяды з’яўляюцца састаўнымі часткамі нашай нацыянальнай гісторыі. Выцісканьне і прыніжэньне любога гістарычнага перыяда не адпавядае інтарэсам нацыі.

Для папярэджаньня пагрозы страты незалежнасьці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь праз ваенныя, эканамічныя ці культурныя механізмы супрацьстаяць ідэалогіі “русского мира” і н’юеўразізма, якія ўяўляюць сабой абноўленыя формы імперскага расійскага шавінізму.

Не падтрымліваць будаўніцтва цывільнай і рускамоўнай дзяржавы, і адначасова працягваць пошук актыўнага ўзаемадзеяньня з мясцовымі ўладамі ў рамках

законаў, як індывідуальна, так і арганізаванымі групамі грамадзян, для паляпшэньня сітуацыі ў адносінах да мовы (садкі, класы, школы, дакументацыя), гісторыі (назвы вуліц, памятныя знакі) і па іншых пытаньнях.

На сучасным этапе праводзіць асьветніцкую дзейнасьць сярод насельніцтва ў першую чаргу ў галіне гісторыі, элітарнай і мас-культуры і традыцый беларускага народа (Полацкая дзяржава, ВКЛ, БНР, БССР, адраджэньне 90-х), не збаўляючы высілкаў па вызваленьні беларускай мовы з прыгнечанага стану. Дабівацца раўнапраўнага, непрымусовага ўжываньня беларускай мовы ў дзяржаве, стварэньня нарматыўнай базы на мове тытульнай нацыі.

Патрабаваць выкананьне “Закона аб мовах” і стымуляваць выкарыстаньне Мовы ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцьця, ужываючы ўсе магчымыя падыходы і сродкі, прадстаўленыя ў “Стратэгіі развіцьця беларускай мовы ў XXI стагоддзі” (2012), уключаючы: адкрыцьцё беларускіх нацыянальных універсітэтаў, правядзеньне лекцый і ўрокаў вучням і студэнтам на беларускай мове, заахвочваньне грамадзян Беларусі аддаваць дзяцей у беларускія садкі і школы, мовазнаўчую і інфармацыйную падтрымку беларускай рэкламы прадуктаў і тавараў, заахвочваньне рэлігійных абшчын розных канфесій да правядзеньня багаслужбы на беларускай мове, заахвочваньне грамадскіх арганізацый нацыянальных меншасьцяў да вывучэньня беларускай мовы і гісторыі, заахвочваньне грамадзян Беларусі і адпаведных рытуальных агенцтваў ужываць беларускую мову на надмагільных надпісах.

Стварыць агульны нацыянальны інфармацыйны канал і шэраг інфармацыйных пляцовак (газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне), пабудаваных па прынцыпу грамадскіх СМІ, на якія не змогуць ўплываць і ціснуць ідэалагічныя структуры аўтарытарнага рэжыму.

Даводзіць грамадству інфармацыю пра ўсе станоўчыя праяўленьні беларускасці і рэагаваць на ўсе без выключэньня праявы этнацыду беларусаў. Шанаваць і развіваць гонар за дасягненьні, якія мае беларускі народ сёньня.

Папулярызаваць нацыянальных дзеячаў, зрабіўшых найбольшы ўклад у развіцьцё нацыі: І. Насовіч, Н. Орда, В. Дунін-Марцінкевіч, С. Манюшка, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Я. Карскі, М. Доўнар-Запольскі, Б. Эпімах-Шыпіла, І. Луцкевіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі, У. Галубок, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, А. Луцкевіч, М. Багдановіч, А. Чарвякоў, Б. Тарашкевіч, Р. Шырма, Г. Цітовіч, Л. Геніюш, М. Ермаловіч, В. Быкаў, А. Адамовіч, У. Караткевіч, М. Крукоўскі, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, У. Мулявін, і іншых беларускіх дзеячаў.

Папулярызаваць і адзначаць нацыянальныя сьвяты, якія пакуль што не значацца ў афіцыйным календары: 25 сакавіка – Дзень Волі, першае абвяшчэньне незалежнасьці краіны, Беларускай Народнай Рэспублікі; 15 ліпеня – Грунвальдская бітва; 27 ліпеня – Дзень незалежнасьці Рэспублікі Беларусь; 8 верасня – Дзень беларускай вайсковай славы, 27 лістапада – Слуцкі збройны чын. Усталяваць дзень памяці ахвяр войнаў і палітычных рэпрэсій. Распачаць пошук і дагляд помнікаў зніклым беларусам на радзіме і ў замежжы. Перахаваць прах М. Багдановіча у Беларусі.

## *Падыходы і сродкі рэалізацыі*

1. У сваіх адносінах паміж людзьмі, якія будуць падтрымліваць рэалізацыю “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі” пажадана прытрымлівацца “Кодэкса гонару”: лічыць, што ўдзел у будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы гэта вялікі гонар для беларусаў і прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў; праяўляць узаемапавагу і падтрымку; крытычна і абгрунтавана вясьці спрэчкі, не дапускаючы пры гэтым абраз і спасылак на неправераныя факты; быць талерантнымі да выказваньняў апанентаў; максімальна ўжываць беларускую мову дома і па-за домам; прытрымлівацца адзіных падыходаў пры выкананьні задач Стратэгіі; пазбягаць фракцыйнасьці - пабудаваць нацыянальную дзяржаву можна толькі праз адзінства людзей, незалежна ад таго, прыхільнікамі якіх партый, рухаў, рэлігійных і іншых плыняў яны з’яўляюцца.

2. Давесьці зьмест Стратэгіі да максімальнай колькасці грамадзян Рэспублікі Беларусь. Пажадана каб тэкст Стратэгіі мела кожная сям’я.

3. Рэалізацыя Стратэгіі разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасьці ад магчымых зьмен унутранага ці зьнешняга характару (рэвалюцыя, агрэсія ці іншае).

4. Мець на ўвазе, што для рэалізацыі Стратэгіі больш важным з’яўляецца выхаваньне і падтрымка адпаведнага нацыянальна-сьвядомага настрою ў грамадстве ў доўгатэрміновай перспектыве, чым нават наяўнасьць ці адсутнасьць матэрыяльных магчымасьцяў.

5. Паступовае пашырэньне кола нацыянальна сьвядомых грамадзян Рэспублікі Беларусь праз асьвету і правядзеньне пастаянных і рэгулярных акцый, скіраваных на выкананьне пастаўленых задач, з удзелам адбудаванай адкрытай грамадзянскай супольнасьці як унутры краіны, так і за яе межамі.

6. Для вырашэньня задач стратэгіі, ва ўмовах абмежаванага доступу да СМІ і адсутнасьці дапамогі з боку дзяржавы, выкарыстоўваць усе наяўныя і шукаць новыя сілы і сродкі беларускага грамадства, прыхільных да нацыянальнай ідэі грамадзян Рэспублікі Беларусь, спонсараў, інтэрнэт-рэсурсы, незалежныя і дзяржаўныя СМІ.

7. Шукаць магчымасьці лабіраваньня нацыянальных інтарэсаў шляхам народнай дыпламатыі і праз спробы наладжваньня дыялогу з тымі супрацоўнікамі праўладных структур і колаў, якія падзяляюць акрэсьленую сістэму каштоўнасьцяў.

*Discussion “The Nation Building and Modernity – 2015-2017”*

**“Strategy of the Belarusian Nation Development”**(updated up to December 15, 2017). ***(“CULTURE. NATION”, December 2017, issue 20, pp.9-13;*** www.sakavik.net ***)***

“The Strategy of the Belarusian Nation Development” was firstly published in the magazine “CULTURE, NATION” in March 2016 (issue 13, pp. 27-34). In every issue of the magazine we provide updated version of “The Strategy”. The aim of “the Strategy” is to build a neutral, national state in which absolutely equal rights will have representatives of national minorities and representatives of predominant ethnicity - Belarusians. The Strategy includes tasks, approaches and resources to realize the national idea. We are grateful to all people participating in the discussion. Naturally, the magazine is waiting for new comments, so that as much as possible to improve “the Strategy”. The text of “the Strategy” was distributed among the delegates of the 7th Congress of Belarusians of the World (July 15-16, 2017; Minsk), and the delegates of the 13th Congress of Association of Belarusian Language (TBM, October 27, 2017; Minsk).

*Артыкулы*

**Пётра Мурзёнак: Заходне-рутэнская цывілізацыя - частка заходняй цывілізацыі**

Вызначэньне прыналежнасьці краіны ці групы краін да той ці іншай цывілізацыі нясе ў сабе два асьпекты. Калі мець на ўвазе прыклад Беларусі, то, па-першае, такое вызначэньне, пабудаванае на глыбокім гістарычным аналізе развіцьця беларускага этнаса і нацыі, будзе спрыяць выбару далейшага натуральнага геапалітычнага руху краіны ў сусьвеце. З другога боку, тая багатая цывілізацыйная спадчына, якую мае Беларусь, дапаможа правільна зарыентавацца ў тэндэнцыях развіцьця сучасных глабальных цывілізацый\культур і гарманічна ў іх уліцца.

Існаваньне асобнай ўсходнеславянскай беларуска-ўкраінскай цывілізацыі абгрунтоўвалася намі раней. Мэтай гэтага артыкула з’яўляецца далейшае развіцьцё гэтай ідэі, вызначэньне месца беларуска-ўкраінскай цывілізацыі сярод заходніх суб-цывілізацый і адмаўленьне яе памылковага аднясеньня да еўразійскай цывілізацыі. Разам з тэрмінам беларуска-украінская цывілізацыя у артыкуле будзе выкарыстоўвацца тэрмін заходне-рутэнская цывілізацыя – тэрмін, які на нашу думку ў найбольшай ступені адпавядае як гістарычнай памяці, так і сучаснаму зьместу гэтай цывілізацыі.

**У 13-15 ст.ст. усходнія славяне ўтварылі дзьве цывілізацыі – заходне-рутэнскую і еўразійскую**

З даўняга часу, а менавіта пачынаючы з 18 стагоддзя, дзякуючы складзенай расійскімі вучонымі гістарычнай міфалогіі, якая разыйшлася па ўсяму сьвету, Беларусь як і Украіна заўжды разглядаліся і разглядаюцца часткай вялікай расійскай-еўразійскай-артадаксальнай цывілізацыі (далей у артыкуле будзе выкарыстоўвацца тэрмін еўразійская цывілізацыя). Вучоныя з Заходняй цывілізацыі ў сваёй большасці таксама прымаюць як дадзенае такія гістарычныя расійскія міфы як:

- трыадзінства трох усходнеславянскіх народаў - беларускага, рускага і украінскага,
- прыналежнасьць і пераемнасьць гістарычнай спадчыны Кіеўскай Русі да Расіі,
- славянскі характар маскоўскай\расійскай дзяржавы.

Відавочна, што гэтыя тры асноўныя міфы ніякім чынам не ўключаюць бачаньне свабодных і незалежных ад Расіі беларускага і украінскага народаў, і больш таго існаваньне ўнікальнай заходне-рутэнскай цывілізацыі, якую складалі гэтыя народы некалькі стагоддзяў раней і працягваюць складаць у наш час.

Вызначэньне формы і зьместу цывілізацыі з’яўляецца прадметам абмеркаваньня да гэтага часу. Самы просты з тэрмінаў вызначае цывілізацыю як «тып культуры і грамадства, які ўзнік у канкрэтнай краіне або рэгіёне, або ў той ці іншай эпосе». У нядаўнім аглядзе A. Targowski (2009), можна знайсці дзясятак раньніх і сучасных азначэньняў цывілізацыі. На наш погляд, беларуска-украінская цывілізацыя адпавядае па многіх прызнаках вызначэньню цывілізацыі ці суб-цывілізацыі, якая з’яўляецца часткай заходняй цывілізацыі нараўне з іншымі яе субцывілізацыямі (заходне-заходняя, заходне-лацінская, габрэйская, заходне-цэнтральная).

Падрабязныя доказы, якія падтрымліваюць ідэю аб існаваньні беларуска-украінскай цывілізацыі, вы можаце знайсці ў нядаўна апублікаваных артыкулах (П. Мурзёнак, 2013; P. Murzionak, 2015). Разьмежаваньне ўсходніх славян з утварэньнем дзвюх цывілізацый пачалося ўжо ў 9-12 ст.ст. і было вызначана living рознымі фактарамі, такімі як адметнымі асаблівасьцямі іх плямёнаў, прыроднымі ўмовамі ўсходне-еўрапейскай раўніны і еўразійскага стэпу, асіміляцыяй мясцовых плямёнаў, міжусобнымі войнамі паміж землямі і княствамі, уплывам мангольскай імперыі, і з'яўленьнем Вялікага княства літоўскага, княства, якое выратавала частку ўсходніх славян, якія жылі на тэрыторыі сучасных Беларусі і Украіны, ад «еўразійскага ўплыву».

Цывілізацыйны падзел сярод усходніх славян ішоў паступова і паўстаў паміж славянамі, якія жывуць на тэрыторыі, што ў цяперашні час ёсць Украінай і Беларусьсю, і славянамі, якія мігравалі на паўночны ўсход (тэрыторыю будучай Масковіі). Адной з прычын гэтага падзела стала асіміляцыя «вялікарускіх славян» з фіна-вугорскімі народамі, якія пражывалі на Паўночным усходзе (мардва, мары, вепса, мяшчэра, мурома) (першая хваля асіміляцыі). Той факт, што першае на Паўночным усходзе княства, Суздальскае, узнікла як княства толькі ў 1157 годзе - праз два стагоддзі пасьля ўзнікненьня Кіеўскага і Полацкага княстваў, паказвае на павольную міграцыю і асіміляцыю ўсходніх славян у гэтай вобласьці з мясцовым фіна-вугорскім насельніцтвам. Магчыма, што адной з прычын такой павольнай міграцыі было паступовае феадальнае драбленьне Кіеўскай Русі.

Але з другога боку, распад Кіеўскай Русі быў і прадумовай далейшага этнанацыянальнага падзелу ўсходніх славян бо ён прывёў да развіцця

усходнеславянскіх цэнтраў са сваімі спецыфічнымі асаблівасцямі - Полацкага княства (папярэдніка будучай беларускай дзяржавы) і Валынска-Галічскага княства (папярэдніка будучай ўкраінскай дзяржавы), асобны характар і незалежнасьць якіх сталі ў гэты час яшчэ мацней.

Адным з ключавых фактараў, падзяліўшых ўсходніх славян на дзьве цывілізацыі, беларуска-ўкраінскую і еўразійскую, было мангола-татарскае нашэсьце. Лінія падзелу паміж гэтымі цывілізацыямі становіцца відавочнай, калі разглядаць тэрыторыі, захопленыя мангольскай імперыяй. Калі тэрыторыя Беларусі і Украіны заставалася вольнай ад захопнікаў з Еўразійскага стэпу, бо склала асноўную частку новаўтворанай еўрапейскай краіны, ВКЛ, то Масковія была падпарадкавана мангола-татарамі і мела статус васалаў на працягу больш двух стагоддзяў, пачынаючы ад 1240 г. да 1480 г. Падчас панаваньня Залатой Арды у 13-15 ст.ст. і пазьней, у 16-19 ст.ст., праходзіла другая хваля асіміляцыі славян Масковіі з цюркскімі народамі, што яшчэ больш аддаліла іх ад славян Беларусі і Украіны.

Беларускія і ўкраінскія славяне захавалі сваю ідэнтычнасьць і цывілізацыю ў складзе Вялікага княства літоўскага (ВКЛ), якое фактычна аб'яднала ўсходніх славян у 13-15 ст.ст. пасля распаду Кіеўскай Русі. Такога роду аб'ядноўчая роль не магла быць выканана Масковіяй па зразумелай прычыне – бо сама была ў васальнай залежнасьці ад мангольскай Залатой Арды ў той час. ВКЛ спыніла “еўразіянізацыю” значнай часткі славян, будучых беларусаў і ўкраінцаў. Да канца 18-га стагоддзя беларусы складалі значную частку насельніцтва ВКЛ, уваходзілі ў Садружнасьць двух народаў – Рэч Паспалітую, і не належалі да Масковіі або Расійскай імперыі.

**Доказы прыналежнасьці беларусаў да заходняй цывілізацыі і культуры**

Вышэй была дазена кароткая характарыстыка прычын утварэньня двух цывілізацый усходнімі славянамі. Ніжэй будуць прыведзены факты, якія сведчаць аб тым, што беларуска-ўкраінская цывілізацыя мае ўсе прыкметы, па якіх яе можна адносіць да заходняй цывілізацыі.

Можна меркаваць, што беларуска-украінская цывілізацыя існуе на працягу васьмі стагоддзяў пачынаючы з 13-14 ст.ст., а еўразійская цывілізацыя толькі пачынала фармавацца ў гэты час. Такім чынам, *беларуска-украінская цывілізацыя амаль на тры стагоддзі старэйшая за еўразійскую* па меньшай меры па дзвюх прычынах: 1) з-за павольнай міграцыі славян у землі Паўночна-усходняга краю і будучага

Маскоўскага царства, пра што сьведчыць значна пазьнейшае стварэньне Уладзіміра-Суздальскага княства (1157) ў параўнаньні з Полацкім (960) і Кіеўскім (882) княствамі; 2) статус Маскоўскай дзяржавы ў якасьці васала мангола-татараў на працягу амаль 240 гадоў.

*Насельніцтва Беларусі і Украіны* асімілявалася з балтамі ці сарматамі, адпаведна, стала пражывала на адной і той жа тэрыторыі, і на сёньня ў асноўным *этнічна аднастайнае*, у той час як паўночна-ўсходнія славяне асіміляваліся на тэрыторыі сучаснай Расіі спачатку з фіна-вугорскімі плямёнамі (першая хваля ассіміляцыі), а пазьней з цюркскімі народамі (другая хваля ассіміляцыі), а тэрыторыя іх расьсяленьня ў выніку захопу другіх народаў павялічылася ў дзесяткі разоў. Асноўнае адрозненьне паміж насельніцтвам дзьвюх цывілізацый ў наш час можна заўважыць пры разліку адносін славян да іншых этнічных груп (30: 1 і 24: 1 для Беларусі і Украіны, адпаведна, кантрастуе з 4,8 : 1 для Расіі) (П. Мурзёнак, 2013, 2016).

Паводле нядаўняга даследаваньня гісторыі абмену генетычным матэрыялам між народамі сьвету *розьніца паміж беларусамі і рускімі* паказана і *на генетычным узроўні* (G. Hellenthal et al., 2014). Так, сярод 8 народаў, вылучаных ва ўсходнеерапейскую групу (беларусы, балгары, венгры, грэкі, літоўцы, румыны, рускія і чувашы), толькі найбольш усходнія групы, рускіх і чувашоў, мелі падобныя тыпы абмену генетычнага матэрыяла, якія мелі папярэднікаў, што паходзілі з двух крыніц – адна з паўднёва-усходняй Азіі, а другая адносіцца да еўрапейскай. Цікава, таксама, што ў абедзьвюх гэтых групах абмен адбыўся двойчы – адзін раз у перыяд да 500BC, а другі раз прыпадае на час мангольскай імперыі. Разам абодва абмены адказныя за 10% ДНК у рускіх, і прыблізна за 35% у чувашоў. Для астатніх разгледжаных краін такі абмен адбыўся аднойчы, і толькі прыблізна 2-4% ДНК мела паходжаньне з Азіі (для беларусаў – 3.6%, а асноўны матэрыял мае паўночна-еўрапейскае паходжаньне – каля 65%, і паўднёвае – каля 30%).

Геаграфічная прыналежнасьць беларусаў да Еўропы ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай не выклікае сумневу – так, *усходняя мяжа Еўропы ў 17 ст. была адначасова і усходняй мяжой ВКЛ,* г.зн. праходзіла паміж ВКЛ і Масковіяй. Геаграфічна Масковія была далучана да Еўропы толькі ў пачатку 19-га стагоддзя, калі межы Еўропы былі пасунуты да Уральскіх гор французскім вучоным M. Malte-Brun (W.H. Parker, 1960).

*У 15-17 ст.ст. ВКЛ абараняла еўрапейскія каштоўнасьці ад еўразійскіх.* Шматлікія войны, якія распачынала Масковія супраць ВКЛ пад эгідаў абароны праваслаўнага насельніцтва, не прыводзілі да посьпеху на працягу стагоддзяў. І не маглі прывесці, бо на нашу думку насельніцтва ВКЛ абараняла зусім іншыя цывілізацыйныя каштоўнасці і рэлігійная талерантнасьць была адной з іх. З канца 15 ст., як толькі скончылася панаваньне самараспаўшайся Залатой Арды, і да сярэдзіны 17 ст., паміж ВКЛ і Масковіяй адбылося 9 буйных войнаў: 1-я маскоўска-літоўская вайна – 1492-1494, 2-я – 1500-1503, 3-я – 1507-1508, 4-я – 1512 -1522, 5-я – 1534-1537, Лівонская вайна – 1558-1583, вайна Масковіі з Рэчу Паспалітай – 1605-1618, Смаленская вайна – 1632 -1634, Паўночная вайна – 1654-1667. Такім чынам, за перыяд з 1492 па 1667 гг., г.зн. за перыяд працягласьцю 175 гадоў – 80 гадоў былі гадамі вайны, дзе беларусы непасрэдна ваявалі з маскавітамі. Ахвяраў было вельмі шмат. Толькі падчас Паўночнай вайны загінулі 1.5 мільёна беларусаў (Г. Сагановіч, 1995). Сапраўды, гэта было сутыкненьне цывілізацый.

Існуе дастаткова навуковых доказаў (Bekus, 2011; Куплевіч, 2013) для прызначэньня беларуска-ўкраінскай цывілізацыі да заходняй цывілізацыі (таксама, гл. Szporluk, 2001; Kohut, 2001). Куплевіч (2013) вылучае 15 ключавых фактараў, якія паказваюць на еўрапейскую прыроду Беларусі, у тым ліку: 1000-гадовую гісторыю Беларусі, *наяўнасць еўрапейскіх цывілізацыйных працэсаў у Беларусі* (Рэнесанс, Рэфармацыя, Контррэфармацыя, Брэсцкай унія, Асьветніцтва), *прысутнасць еўрапейскіх інстытутаў* (парламента, сойма, Магдэбургскага права, ратуш), сучасны працэс дзяржаўнага будаўніцтва, а таксама інтэграцыя беларускіх элітаў у еўрапейскія палітычныя, культурныя, эканамічныя працэсы і г.д.

Так, напрыклад, *Магдэбургскае права* мелі беларускія гарады ВКЛ: Бярэсце (1390), Гародня (1391), Слуцк (1441), Полацк (1498), Мінск (1499), Браслаў (1500), Навагрудак (1511), Магілёў (1577), Пінск (1581), Нясвіж (1581), Віцебск (1597), Друя (1618), Орша (1620), і іншыя. Гэта кантрастуе з Масковіяй, дзе такога еўрапейскага інстытута не існавала.

Уплыў еўрапейскіх працэсаў *рэфармацыі і контррэфармацыі* на рэлігійнае жыцьцё ў ВКЛ у 16-18 ст. адлюстравана шматлікімі фактамі (А. Катлярчук, 2015). Царкоўная барацьба ў ВКЛ вылілася ў суіснаваньне праваслаўнай, каталіцкай і грэка-каталіцкай канфесій, аднак, іх уплыў сярод розных слаёў грамадства быў неаднолькавым. Так, у другой палове 18 ст. большасьць беларускага насельніцтва (каля 75%) далучылася да уніяцкай царквы, тады як значная частка беларускай эліты трымалася каталіцызма і меншая – праваслаўя.

Масковія, а пазьней Расійская імперыя пастаянна пашыралася і праводзіла каланіяльную палітыку ў адносінах да сваіх суседзяў. Каланіяльны менталітэт расійскай эліты і насельніцтва выхоўваўся як дзяржаўнай палітыкай, так і ўслаўляўся расійскімі паэтамі і пісьменьнікамі на працягу апошніх двух стагоддзяў. Да гэтага прыклаліся А. Пушкін (“Путешествие в Арзрум во время похода 1829 года”, “Кавказкий пленник”), М. Лермантаў (“Герой нашего времени”), Л. Талстой (“Вайна і Мір”), А. Салжаніцын (“Раковый корпус”), В. Распуцін (“Сибирь, Сибирь”), і шмат хто яшчэ з расійскага пісьменьніцкага ў асноўным русафільскага асяроддзя (Е. Томсан, 2009). Безумоўна, гэта не магло не сказацца на менталіцеце паняволеных народаў, і ў прыватнасьці беларускага і украінскага. Плады русіфікацыі, якая працягваецца зараз у выглядзе “рускага міра”, даволі проста заўважыць, зазірнуўшы на выкарыстаньне роднай мовы, распаўсюджаньне еўразійскай ідэі па каналах сродкаў масавай інфармацыі ў Беларусі і Украіне, урэшце рэшт па адкрытай агрэсіі Расіі супраць Украіны.

200 год панаваньня Расіі ў Беларусі прывялі да значных зьмен у светапоглядзе беларускага народа. Параўноваючы палітычныя і эканамічныя рэформы, якія праводзіліся з 1991 г. у Латвіі і Беларусі, было адзначана (D. Meadows, 2012)**,** што *“... беларусы прынялі іншы падыход, паколькі беларускі палітычна-культурны сьветапогляд фармаваўся як гістарычна зьвязаны культурна з Расіяй, Еўразіяй і праваслаўем.”*

У той жа час,
*“Гэта не азначае, што беларусам не хапае цэласнай нацыянальнай ідэнтычнасьці, а толькі тое, што іх гістарычны палітыка-культурны светапогляд не лічыць гэта неабходным, ні мэтазгодным адысьці або адарвацца ад традыцыйнай культурнай сьферы Беларусі. Такім чынам, тое, што прапускаюць прыхільнікі доказаў Нацыянальнай сьвядомасьці з’яўляецца тое, што Беларусь мае сваю ўласную паслядоўную і унікальную нацыянальную ідэнтычнасьць, якая проста зьмяшчае розныя ідэі, насуперак нарматыўным вызначэньням, пабудаваных многімі дасьледчыкамі.”*

Пагаджаючыся з апошнім меркаваньнем аўтара, мы, аднак, не думаем, што некаторыя зьмены ў светапоглядзе беларусаў, прынесеныя Расіяй, з’яўляюцца незваротнымі. Разглядаючы працэс развіцьця беларускага грамадства ў прасторы і часе, пачынаючы ад Полацкага княства (960) і да канца 18 ст., можна сьцвярджаць, што ў цывілізацыйным плане беларуска-украінскае грамадства істотна адрозніваецца (этнічна, рэлігійна, ментальна) ад еўразійскай цывілізацыі і па многіх прызнаках мусіць быць аднесена да еўрапейскай або заходняй цывілізацыі.

Часовае знаходжаньне беларускага і украінскага этнасаў у складзе Расійскай імперыі апошнія два стагоддзі, і сучаснае іх змаганьне за асобнае месца ў сьвеце толькі падкрэслівае тое, што цывілізацыі, знаходзячыся ў дынамічным, цыклічным развіцьці, могуць перажываць перыяды ўзлётаў і няўдач. Аднак, улічваючы значную працягласць гістарычных цыклаў, хочацца думаць, што ў нашы дні беларуска-украінская цывілізацыя паступова выходзіць на фазу пад’ёма.

**Вызначэньне месца Беларусі ў Заходняй цывілізацыі**

Паводле С. Хантынгтана (1993), існуе восем цывілізацый - заходняя, праваслаўная\еўразійская\расійская, ісламская, кітайская, індыйская, японская, лацінская і краін Афрыкі на поўдзень ад Сахары. Многія навукоўцы ў наш час прытрымліваюцца ў асноўным такой класіфікацыі цывілізацый, а A. Targowsky ўводзіць дадаткова дзьве сучасныя развіваючыяся цывілізацыі з гібрыднай культурай - глабальная і сучасная-універсальная цывілізацыі.

Аднак, многія даследчыкі па не зусім зразумелых прычынах прызначаюць Беларусь і Украіну ў еўразійскую цывілізацыю. Так, у манаграфіі расійскіх навукоўцаў (Б. Кузік, Ю. Якавец, 2006), дзве краіны, Беларусь і Украіну можна ўбачыць на картах будучага развіцьця еўразійскай (расійскай) цывілізацыі на 2050 год; абгрунтаваньня для ўключэньня Беларусі і Украіны на гэтыя карты, паводле расійскай традыцыі, не дадзена. Пазіцыя расійскіх аўтараў зразумелая – яны прытрымліваюцца ідэяў еўразістаў мінулага і цяперашняга часу, каланіяльны характар якіх мае выразную геапалітычную афарбоўку.

Класічныя традыцыі еўразістаў, на жаль, былі безпамылкова прыняты заходнімі дасьледчыкамі. Прымаючы гістарычныя расійскія міфы за праўду, яны ідуць у іх фарватэры, будуючы на іх фундаменце тэорыі, якія не прымаюць да ўвагі існаваньне па сутнасьці трох асобных усходнеславянскіх народаў, беларускага, рускага і украінскага. Усе гэтыя краіны, як правіла, класіфікуюцца ў адну еўразійскую цывілізацыю. Гэты погляд зьмяняецца вельмі паступова, нягледзячы на тое, што ў 20 ст. Беларусь двойчы мела шанец стаць паўнавартаснай незалежнай краінай – у абодвух выпадках пасля краху імперый – Расійскай у пачатку 20 ст., і СССР – у канцы 20 стагоддзя. І хоць першы раз гэта зрабіць у поўнай меры не ўдалося (па-ранейшаму застаючыся калоніяй Расіі), то ў другім разе гэта падаецца больш рэальнай, але не такой простай задачай. У сітуацыі з Украінай – гэта ідзе праз непасрэдную ваенную канфрантацыю з Расійскай імперыяй. Што тычыцца

Беларусі, то падаецца, што яе кіраўніцтва, асабліва на працягу апошніх год, робіць вымушаныя і не зусім рашучыя крокі для таго, каб адлучыцца ад грознага суседа мірным шляхам.

Як падаецца, у большасьці выпадкаў, такое ўключэньне беларусаў і украінцаў у еўразійскую цывілізацыю праводзіцца на падставе рэлігійных адрозненьняў. Так, A. Targowski, як і С. Хантынгтон, прызначае Беларусь і Украіну, разам з Расіяй, Балгарыяй і Малдовай, да еўразійскай цывілізацыі. Толькі невялікая частка як Беларусі, так і Украіны трапляе ў склад Заходняй цывілізацыі паводле Хантынгтона, які бачыць існаваньне менавіта такой мяжы паміж Захадам і Ўсходам на працягу 500 апошніх гадоў (цыт. па P. Eberhardt, 2016). Тым не менш, абмяркоўваючы новую канцэпцыю падзелу Еўропы паміж Лацінскай і Візантыйскай цывілізацыямі P. Eberhardt далучае да лацінскай цывілізацыі яшчэ меншыя часткі гэтых краін, чым тое, што паказана на карце Харынгтона, заўважаючы пры гэтым, што з канца 16-га і да канца 18 ст. уся Беларусь і большая частка Украіны адносіліся да Заходняй цывілізацыі, што абсалютна правільна.

У наш час такое падзяленьне Беларусі і Украіны па рэлігійнаму прынцыпу як бы загаддзя прадказвае магчымы канфлікт паміж праваслаўнымі і каталікамі. Сапраўды, P. Eberhardt, не выключае магчымасці розных канфліктаў па лініі раздзела Лацінскай і Візантыйскай цывілізацыі, аднак, у той жа час ніякім чынам не каментуе вайну, якая ідзе паміж Расіяй і Украінай на тэрыторыі Данбаса.

Падаецца, што падзяленьне па рэлігіі мусіла б было праводзіцца ў гістарычным асьпекце. Тут трэба спыніцца з больш дэталёвым тлумачэньнем. Рэлігійная сітуацыя ў Беларусі і ва Украіне на працягу 10-18 стагоддзяў складывалася неадназначная. Увядзеньне князем Уладзімірам хрысьціянства ў Кіеўскай Русі, не прывяло адразу да хрысьціянізацыі ўсяго насельніцтва. Так напрыклад, калі браць ВКЛ ў канцы 14 ст., то значная частка краіны, як на тэрыторыі сучаснай Літвы, так і ў Беларусі, мела апроч праваслаўя значную долю насельніцтва, якое прытрымлівалася паганства. Сучасныя дасьледчыкі лічуць, што літоўскія князі, Гедзімін (1275-1341) і Альгерд (1295-1377), былі паганцамі (J. Muldoon, 1997). Можна думаць¸ што падуладнае ім насельніцтва знаходзілася ў такім жа стане адносна рэлігійнага вызваньня.

Пачатак існаваньня ВКЛ характарызаваўся балансаваньнем паміж рознымі канфесіямі ў адпаведнасьці з палітычнай сітуацыяй і прэферэнцыямі тагачасных элітаў. Гэта бачна па зьмене стану хрышчэньня Міндоўга, першага караля Літвы, які быў напачатку паганцам, затым стаў праваслаўным, каталікам і зноў паганцам,

князя Вітаўта, які тройчы прымаў хрост, католік – праваслаўны – католік, князя Ягайлы, які доўга вагаўся на кім яму жаніцца – на польскай каралеўне Ядзьвізе – і стаць каталікам, ці на рускай княжне Сафіі, дачцы князя Дзмітрыя Данскога, і стаць праваслаўным. Ягайла выбраў Ядзвігу і каталіцызм пачаў распаўсюджвацца па ВКЛ, хаця значная частка простага насельніцтва была праваслаўнай, чаго нельга сказаць аб эліце.

Пачатак працэсаў Рэфармацыі ў Еўропе ў пачатку 16 ст. не мог закрануць і ВКЛ, вялікую еўрапейскую краіну (A. Kotliarchuk, 2015). Гэта заўважна па:

- выданьню пратэстанцкіх кніг на беларускай мове – у 1562 годзе С. Будны выдаў у Нясвіжы лютэранскі катэхізіс, у 1580 годзе Васіль Цяпінскі – Новы Завет;
- адкрыцьцю пратэстанцкіх прыходаў у ВКЛ (у 1600 годзе было 229 кальвінісцкіх прыходаў, 16 арыянскіх, 12 лютэранскіх);
- утварэньню грэка-каталіцкай, уніяцкай царквы ў ВКЛ (Брэст, 1596);
- контр-наступленьню рымска-каталіцкай царквы, што бачна па заснаваньню езуіцкіх каледжаў у беларускіх гарадах: у Полацку (1585), Нясьвіжы (1586), Воршы (1616), Гародні (1625), Мінску (1625), Віцебску (1648).

Падаецца, што недалучэньне Беларусі і Украіны да заходняй (лацінскай) цывілізацыі, абгрунтоўваецца некаторымі дасьледчыкамі ў асноўным на падставе ацэнкі распаўсюджаньня праваслаўнай рэлігіі ў гэтых краінах. Аднак, па гэтаму параметру нават у наш час існуе істотнае адрозненьне ў веравызнаньні насельніцтва краін, якія ўваходяць у беларуска-украінскую і еўразійскую цывілізацыі, нягледзячы на 200-гадовы каланіяльны перыяд, у якім знаходзіліся Беларусь і Украіна. У нядаўнім даследаваньні (N. Sahgal, A. Cooperman, 2016) паказана, што пры прыблізна аднолькавай колькасьці праваслаўнага насельніцтва, Расія і Балгарыя маюць значную долю мусульман (адносіны праваслаўных да мусульман 7:1 і 5:1, адпаведна), тады як у Беларусі і Украіне мусульмане складаюць нязначную долю насельніцтва (менш 0.1%). У той жа час у Расіі і Балгарыі амаль адсутнічаюць каталікі, а ў Беларусі і Украіне адносіны праваслаўных да каталікаў складпюць 6:1 і 8:1, адпаведна. Падобныя разлікі былі атрыманы і пры разліках адносін хрысціянаў да мусульманаў, у Расіі і Балгарыі – 7:1 і 5:1, у Беларусі і Украіне – 90:1 і 27:1, адпаведна (П. Мурзёнак, 2013). Больш дэталёвыя даследаваньні паказалі, што не больш 50% сучаснага беларускага насельніцтва адносіцца да праваслаўнай царквы (П. Мурзёнак, 2016).

Мы мяркуем, што цывілізацыйныя рамкі не могуць вызначацца толькі на рэлігійнай аснове. Тым больш, што роля рэлігіі ў жыцьці цывілізаваных народаў паступова зьмяншаецца. Цывілізацыя з'яўляецца інтэгральнай адзінкай,

складовымі часткамі якой ёсьць этнічныя, моўныя, рэлігійныя і ментальныя прызнакі, памножаныя на гістарычныя досьвед, спадчыну і развіцьцё.

На падставе прыведзеных дадзеных, можна лічыць, што беларуска-украінская цывілізацыя існуе, адрозніваецца ад еўразійскай цывілізацыі, і можа быць класіфікавана як адна з суб-цывілізацый заходняй цывілізацыі. Паводле A. Targowski напрыклад, у заходняй цывілізацыі ёсць заходне-заходняя, заходне-лацінская, габрэйская, і заходне-цэнтральная суб-цывілізацыі. Мы прапануем падоўжыць гэты рад яшчэ адной суб-цывілізацыяй, якую называем - заходне-рутэнская суб-цывілізацыя.

**References**

1. Куплевіч В. Цывілізацыя Еўропы. Ч.5, 2013б, http://belarus.kulichki.net
2. Мурзёнак П. Ці быў Рурык у Полацаку? Гісторыя сучаснай Беларусі і Украіны як вынік сутыкненьня ўсходнеславянскай і еўразійскай цывілізацый Часопіс “САКАВІК”, №2, чэрвень 2013, с.3-43.
3. Мурзёнак П. Усходнеславянская беларуска-украінская цывілізацыя. Гіпотэза і факты. Часопіс «САКАВІК», №3, верасень 2013, с. 40-61.
4. Мурзёнак П. Шляхі да беларускай нацыі. Мінск, Кнігазбор, 2016. с. 62-87.
5. Сагановіч Г. Невядомая вайна: 1654-1667. Мінск, «Навука і тэхніка», 1995.
6. Томпсан Э. М. Песняры імперыі: Расійская літаратура і каланіялізм (пераклад з ангельскай). Мінск, Медысонт, 2009. 382 с.
7. Bekus N. East, West or in Between? Three post-communist concepts of the Belarusian Nation. In: The East-West discourse : symbolic geography and its consequences, by A. Maxwell. NY, Peter Lang, 2011, pp 191-211.
8. Eberhardt P. Comparative Civilizations Review. No 75: Fall, 2016, pp.44-69.
9. Hellenthal G., Busby G.B.J., Band G. et al. A Genetic Atlas of Human Admixture History. Science, vol. 343, 2014, 747-751.
10. Huntington S. The clash of civilizations. Foreign Affairs, v.72, No. 3, 1993.
11. Kuzyk B.N., Yakovets Yu.V. Civilizations: Theory, History, Dialogue and the Future, v. II, Moscow, Institute for Economic Strategies, 2006.
12. Kohut Z. E. OP #280: The question of russo-ukranian unity and ukranian distinctiveness in early modern urkranian thought and culture. Kennan Institute Occasional Papers, 2001. http://www.wilsoncenter.org/sites/default/files/ACF2C9.pdf
13. Kotliarchuk A. The Orthodoxy in the grand Duchy of Lithuania and Protestants in Belarus. 2015. Available from Internet: http://belreform.org/eng/katlarchuk_prat_i_pravasl_eng.php
14. Meadows D. The effect of political culture on different dsides of the post soviet political and economic reforms: Comparison of the experience of Latvia and Belarus since 1991 (Doctor of Phylosophy thesis). Dalhousie, 2012. P. 577.

15. Muldoon J. Varieties of Religion Conversion in the Middle Ages. University Press of Florida, 1977, p.140.
16. Murzionak P. Evidence for Belarusian-Ukrainian Eastern Slavic Civilization. Comparative Civilizations Review. No 73: Fall, 2015, pp.51-76.
17. Parker W.H. Europe: How Far? The Geographical Journal. Vol. 126, No3, 278-297 (p. 286), 1960.
18. Sahgal N., Cooperman A. *Religious Belief and National Belonging in Central and Eastern Europe.* Pew Research Center, May 10, 2017, P.5.
19. Szporluk R. The Making of Modern Ukraine: The Western Dimension. Harvard Ukrainian StudiesXXV (1/2) 2001: 57–90.
20. Targowski A. Towards a composite definition and classification of civilization. Comparative Civilizations Review, No 60, pp79-98, 2009.

**Piotra Murzionak: Western-Ruthen Civilization is a Part of Western Civilization**

***(Abstract, magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.14-24)***

The author continues to provide an evidence for the existence of a distinct Belarusian-Ukrainian or Western-Ruthen civilization. Belarus and Ukraine as a sub-civilization belongs to the Western, but not to the Eurasian civilization. A number of arguments support this statement based on historical, ethnic, religion, mentality aspects, and commonality with Western civilization.

**Пётра Мурзёнак: Сьвядомае паўстаньне за незалежную Беларусь**

Слуцкі збройны чын адбыўся ў канцы 1920 года (27 лістапада – 31 сьнежня), у час, калі ішла польска-савецкая вайна. Падчас паўстаньня прайшлі баі паміж беларускімі сіламі, прыхільнымі да Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), і Чырвонай Арміяй. **27 лістапада** беларусы сьвету адзначаюць **Дзень Герояў**.

**Ваенна-палітычныя ўмовы вакол Слуцкага збройнага чыну**

Паўстаньне адбылося ў хуткім часе пасьля заключэньня Рыжскага дагавора аб перамір'і і ўмовах міру паміж Польшчай і Расіяй, падпісанага 12 кастрычніка 1920 года. Ні адна беларуская дэлегацыя, ад БНР ці ад БССР, не былі дапушчаны ні на перамовы, ні на падпісаньне гэтага дагавора. 20 кастрычніка 1920 года ў Рызе была склікана Беларуская нацыянальна-палітычная каферэнцыя, якая пастанавіла:

*“1. Умову аб прэлімінарным міру паміж Р.С.Ф.С.Р. і Польшчай, падпісаным 12 кастрычніка 1920 г., каторая можэ легчы у аснову сталага міру – лічыць для Беларускага Народу неабавязковай.*

*2. Усімі спосабамі і сродкамі вясьці барадзьбу і далей за незалежнасьць і непадзельнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі з усімі яе ворагамі.*

*3. Патрэбаваць абавязковага учасьця Дэлегацыі Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі у дальнейшых перагаворах аб міру паміж Р.С.Ф.С.Р. і Польшчай.*

*4. Прызнаць дзеяльнасць Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі і крокі, каторыя ён рабіў для абароны незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі правільнымі, канешнымі і згоднымі з воляй усяго Беларускага Народа.*

*Старшыня К. Душэўскі*

*Віцэ-старшыня Галавінскі*

*Сэкрэтар Пігулеўскі”* (Архівы БНР, Том І, Кніга 2, с. 918).

“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”, №20, сьнежань 2017 ISSN 2291-4757

Падобныя дэкларацыі пратэсту былі зроблены на канферэнцыі беларускіх сацыялістычных партый - сацыялістаў-рэвалюцыянераў, сацыялістаў-дэмакратаў, і сацыялістаў-федэралістаў (21 кастрычніка 1920 г., Рыга), і прадстаўнікамі Найвышэйшай Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (21 кастрычніка 1920 г., Варшава-Мінск) (Архівы БНР, Том I, Кніга 2, с. 919-920, с.921-923).

Рэалізаваць, аднак, пастаўленыя задачы не ўдалося, бо 18 сакавіка 1921 года Рыжскі мірны дагавор быў канчаткова падпісаны і вызначана новая усходняя мяжа Польшчы. Вынікам дагавора стала тое, што Беларусь і Украіна былі падзелены на дзве часткі, але гэта адбылося ўжо пасьля Слуцкага збройнага чыну.




Граніцы Польшчы пасьля Рыжскага мірнага дагавора

**Удзельнікі Слуцкага збройнага чыну**

Падчас польска-савецкай вайны (студзень 1919 – сакавік 1921) Слуцк некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі. Напярэдадні падпісаньня прэлімінарнага Рыжскага дагавора, Слуцк быў пад польскім кантролем. Рыжскі дагавор стымуляваў актыўнасць Беларускага нацыянальнага камітэта (БНК) ў Слуцку*.

*БНК быў створаны ў красавіку 1918 году. Пасьля прыходу Чырвонай Арміі быў на нелегальным становішчы. Аднавіў сваю дзейнасьць у студзені 1919 году. Меў цесную сувязь і фінансаваўся Часовым беларускім нацыянальным камітэтам у Мінску. Палітычна знаходзіўся пад уплывам беларускіх эсэраў. У траўні 1920 году выступіў з пратэстамі ў адрас Польшчы й Савецкай Расіі, у якіх асудзіў тайныя перамовы пра падзел Беларусі. 1 лістапада 1920 году створаны новы склад камітэту на чале з А. Паўлюкевічам, які стаяў на пазыцыях Найвышэйшай Рады БНР. На I-м

беларускім зьезьдзе Случчыны 14 лістапада 1920 году перадаў свае паўнамоцтвы абранай Беларускай радзе Случчыны.

**Арсень Паўлюкевіч** (1889 — ?) , лекар, Маскоўскі ўнівэрсытэт, узначаліў адноўлены Слуцкі беларускі нацыянальны камітэт (лістапад 1920), загадваў шпіталем паўстанцаў. Пасьля паўстаньня жыў у Нясьвіжы, Сіняўцы, Вільні, стваральнік Часовай беларускай рады, палітычны апанэнт левых беларускіх партыяў (БСРГ, КПЗБ) (1924). Палянафіл, аднак, у 1928 г., як савецкі шпіён асуджаны польскім судом на 12 год катаргі. Удзельнік, антыгітлераўскага супраціву ў Варшаве, схоплены і расстраляны немцамі.

**Найвышэйшая рада БНР**, орган прадстаўнічай улады, створаны 14 сьнежня 1919 г. у Мінску пасля расколу Рады БНР. Яе стварылі тыя беларускія дзеячы (37 чалавек), якія лічылі магчымым супрацоўніцтва з Польшчай. Узначаліў Найвышэйшую раду Язэп Лёсік. Пасля падпісаньня польска-беларускай дамовы 24 сакавіка 1920 года Найвышэйшая рада БНР атрымала фінансавыя датацыі, што прывяло да істотнага росту яе ўплыву — праз стварэньне апарату і магчымасьці працаўладкаваньня для беларускіх дзеячаў у Мінску. У 1921 годзе Найвышэйшая рада БНР спыніла сваё існаваньне.

Пад кіраўніцтвам Беларускага нацыянальнага камітэта былі створаны першыя атрады народнай міліцыі, каля 500 чалавек. Палякі не чынілі ў тым перашкоды, бо зьбіраліся пакідаць тэрыторыю Случчыны ў адпаведнасьці з прэлімінарным Рыжскім дагаворам. Сярод беларускіх дзеячаў камітэта не было поўнай згоды – частка з іх выступала за ўзаемадзеяньне з Польшчай, другая – з савецкай Расіяй. У пачатку лістапада, пасьля адыходу палякаў, у Слуцкім павеце прайшлі новыя выбары і новыя камітэты замясьцілі старыя, прызначаныя польскай адміністрацыяй. Камітэт, у якім найбольш уплываваў сілай былі сацыял-рэвалюцыянеры (эсэры), склікаў на 14 лістапада 1920 года з’езд Случчыны. На з’езд вылучаліся дэлегаты – па пяць ад кожнага мясцовага камітэта і па аднаму ад беларускіх арганізацый. У з’езде прынялі ўдел 107 дэлегатаў са Случчыны і некалькі прадстаўнікоў Беларускай арміі Булак-Балаховіча.

З’езд прыняў Ухвалу, у якой гаварылася:

***“УХВАЛА БЕЛАРУСКАГА З’ЕЗДА СЛУЧЧЫНЫ.***

*Слуцк, 14-го XI. 1920 году.*

*Першы Беларускі з’езд Случчыны, скліканы у лічбе 107 дэлегатаў, вітае Раду Беларускай Народнай Рэспублікі і сьведчыць, што усе свае сілы аддасьць на адбудову сваёй Бацькаўшчыны.*

*З’езд катэгорычна пратэстуе проці акупацыі родных зямель чужацкім наездам і проці самазванай Савецкай улады як урад Кнорына і іншыя, якія паутвараліся на*

*Беларусі. Бацькаушчына наша зруйнавана чужынцамі, якія нішчаць яе і да гэтуль, і мы, аддаючы справе адбудаваньня нашай Бацькаушчыны усе нашы сілы і жыцьця, зьвертаемся да усяго сьвету і Саюзу Народау аб дапамозе у стварэньні нашай вайсковай сілы.*

*Шчыра вітаем нашу сястру Польшчу.*

*Прыняцьце ухвалы было пакрыта воклікамі:*

*Няхай жыве вольная, незалежная, дэмакратычная Беларуская Народная Рэспубліка у яе этнографічных граніцах!*

*Няхай жыве Беларуская армія!*

*Няхай жыве беларускі народ!*

*Няхай жыве братэрства усіх славянскіх народау!*

*Няхай жыве Беларускі Устаноўчы Сойм!”* (Архівы БНР, Том I, Кніга 2, с. 956-957).

На з’едзе была ўтворана Рада Случчыны з 17 чалавек на чале з У. Пракулевічам. Задачай Рады было стварэньне часовай мясцовай улады (да правядзеньня рэгулярных выбараў) і арганізацыя вайсковай абароны.

**Уладзімір Пракулевіч** (1887-1938), юрыст, Маскоўскі універсітэт. Суддзя ў Слуцку (1918). Старшыня Беларускай рады Случчыны і адзін з кіраўнікоў Слуцкага збройнага чыну 1920. Сакратар міжнародных спраў Беларускай партыі эсэраў (1921, Вільня). Дзяржаўны сакратар Урада БНР (на выгнаньні) пад кіраўніцтвам А. Цьвікевіча (1923). У 1926 г. вярнуўся ў БССР, арыштаваны (1930) і сасланы на 5 гадоў у Перм (1932), арыштаваны другі раз і забіты (1938).

Іншыя сябры Рады Случчыны:

**Павел Жаўрыд (**1889-1939) беларускі грамадзка-палітычны дзяяч, журналіст. Вучыўся на юрыдычным факультэце Варшаўскага ўнівэрсытэту. Юрысконсульт Слуцкага павятовага зямельнага аддзелу (1918), эсэр. У канцы 1920 году Найвышэйшай радай БНР прызначаны камісарам Случчыны, уваходзіў у склад Беларускае рады Случчыны. У 1921 знаходзіўся ў Вільні. Потым вярнуўся на Случчыну. У 1923—1930 гадох працаваў у Белсельпрамсаюзе, Мар’інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме, Інбелкульце, газеце «Зьвязда». Арыштаваны (1930) па справе «Саюзу вызваленьня Беларусі». Асуджаны да 5 гадоў лагераў (1931), вызвалены ў 1934 г. Зноў арыштаваны (1937) і асуджаны на 10 гадоў лагераў, дзе памёр ад хваробы.

**Юры Лістапад (1897-1938)**, беларускі палітычны дзяяч, публіцыст. Скончыў 1-я Беларускія пэдагагічныя курсы (1918), настаўнічаў на Случчыне, школьны інструктар у Слуцкім павеце (1919). Удзельнік Слуцкага збройнага чыну. З 1921 году ў Заходняй Беларусі, інструктар беларускіх

школаў на Віленшчыне. У 1922 вярнуўся ў Слуцак, настаўнічаў. Арыштаваны (1925), у сакавіку 1926 асуджаны на 5 гадоў турмы. Вызвалены ў лістападзе 1927. Зноў арыштаваны летам 1930 г., вызвалены празь некалькі месяцаў. У ліпені 1933 году перасяліўся ў Ржэў. У кастрычніку 1933 зноў арыштаваны, асуджаны на 8 гадоў зьняволеньня (1934). Прыгавораны да растрэлу (1938).

**Васіль Русак** (1896-1954), выдавец, прадпрымальнік. Удзельнік 1-й сусьветнай вайне, прапаршчык. З 1917 сябра Беларускай сацыялістычнай грамады, удзельнік 1-га Ўсебеларускага кангрэсу ў Мінску (сьнежань 1917). З траўня 1918 году у ЦК Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. У сакавіку 1919 году арыштаваны бальшавікамі. Сябра Слуцкага Беларускага нацыянальнага камітэту. У лістападзе 1920 г. старшыня зьезду Случчыны і сябра прэзыдыюму Рады Случчыны. Камандзір Другога Грозаўскага палка. У траўні 1922 году ў Коўне (Літва), займаўся арганізацыяй партызанскіх аддзелаў на Віленшчыне супраць палякаў. У канцы 1922 году выязджае на вучобу ў Чэхаславаччыну (Праская вышэйшая тэхнічная школа). У 1931 годзе ўзначаліў Праскі Беларускі нацыянальны камітэт. Арыштаваны ў Празе савецкай контрвыведкай (1945), асуджаны на 10 гадоў лагераў (1946), там і памёр у 1954 годзе.

## Вайсковыя дзеяньні

Рада Случчыны абвясьціла ўсеагульную мабілізацыю, вынікам якой стала стварэньне вайсковых сіл, колькасцю да 10.000 чалавек (па розных зьвестках ад 4.000 да 10.000). Асноўную частку войска складалі жыхары Слуцка і навакольных вёсак (Цімкавічы, Копыль, Семежава, Грозава, і іншых). Былі ўтвораны 2 палкі – 1-шы Слуцкі (камандзір, палкоўнік А. Гаўрыловіч), і 2-гі Грозаўскі (капітан Семянюк).




Сцяг 1-га слуцкага палка, Вільня, 1921

Паколькі сілы Чырвонай Арміі ўжо падступаліся з усходу, вайсковы штаб случчакоў знаходзіўся ў Семежава, за дзесятак кіламетраў на захад ад Слуцку. Слуцкая рада цесна супрацоўнічала з арміяй Булак-Балаховіча.

Тры карты, якія дэманструюць дыслакацыю войскаў (прадстаўлены ніжэй), а таксама спіс удзельнікаў паўстаньня (гл. дадатак), узяты з артыкула, размешчанага на сайце www.naviny.by 28 лістапада 2017 года.




Становішча на 23 лістапада 1920 года




Становішча на 24-26 лістапада 1920 года




Становішча на 10-18 снежня 1920 года

24 лістапада 1920 года войскі случчакоў канцэнтраваліся вакол Семежава. 27 лістапада адбыліся першыя баі з бальшавікамі. У далейшым случчакі ваявалі партызанскімі метадамі. 31 сьнежня слуцкая брыгада (каля 1.500 чалавек) адыйшла на польскую тэрыторыю, дзе была разброена. Частка воінаў з тых, што вярнуліся на радзіму, была арыштавана, некалькі соцен сем’яў было адпраўлена ў ссылку на Ўсход.

20 студзеня 1921 года частка сяброў Рады Случчыны на сваім паседжаньні ў Баранавічах, што былі пад Польшчай, прызнала сваім кіраўнікам Булак-Балаховіча. Частка сяброў Рады Случчыны выехала ў Вільню. Рады Случчыны перастала існаваць.

**Станіслаў Булак-Балаховіч** (1883-1940), вайсковец, меў узнагароды за гераізм у 1-й сусьветнай вайне, ротмістр (1916), паручнік (1917), генерал-маёр Белай арміі, удзельнік грамадзянскай вайны ў Іспаніі на баку Франко. У пачатку лістапада 1920 г. ў яго арміі налічвалася 20.000 чалавек. Узначаліў Беларускі палітычны камітэт, які пазьней ператварыўся ва ўрад БНР. Не прызнаваў Урады БНР Ластоўскага і Луцкевіча. 16 лістапада 1920 г. стаў Начальнікам Беларускай дзяржавы. 27 красавіка 1921 года – прызначаны ўрадам БНР вярхоўным галоўнакамандуючым над усімі узброенымі сіламі Беларусі (у асноўным за мяжой).

## Уганараваньне слуцкіх паўстанцаў



Помнік слуцкім паўстанцам, усталяваны беларускімі эмігрантамі у 1948 г. (Міттэнвальд, Германія, Альпы)

Дакументальны фільм “Слуцкі збройны чын”, Белсат (2008).

Мастацкі фільм па В. Быкаву “На Чорных Лядах”.




Слуцкі збройны чын. Слуцк. 26 лістапада 2017 года. Партыя БНФ.

**Спасылкі:**

Архівы БНР, пад рэд. С. Шупы. Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Таварыства беларускага пісьменства. Вільня-Н’ю-Ёрк, Менск, Варшава, 1998.

Латышонак А. Жаўнеры БНР. Смаленск: Інбелкульт, 2014. 373 с.

Ляхоўскі Ул. І іншыя Слуцкі збройны чын 1920 у дакладах і ўспамінах. Мінск, 2001.

Ляхоўскі Ул. Героі Беларусі. “Наша Ніва”, 17 сьнежня 2010.

# Спіс удзельнікаў Слуцкага збройнага чыну

**Абрамаў,** афіцэр Брыгады. **Адамовіч Стэфан**, шараговы Брыгады. **Аляхновіч Павел**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Андрусевіч Якуб**, шараговы 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1891 г. ў в.Сарогі, меў 30 дзесяцін зямлі. У 1932 г. арыштаваны, асуджаны на 10 год лагераў. **Анцыповіч Анастас**, капітан, сябра Рады Случчыны, камандзір Першай Брыгады стральцоў БНР, сябра “Зялёнага Дуба”. **Арэбіна Нестар**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Арцыман Лукаш**, шараговы Брыгады. **Арцыховіч Філімон**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. ў в. Селішча. Падчас арышта ў красавіку 1929 г. - сябра ЦВК БССР. Асуджаны на 3 гады канцлагераў, сасланы на Салаўкі. **Арцышэўскі**, паручнік, афіцэр Беларускай Вайсковай камісіі, адзін з арганізатараў 2 Грозаўскага палка, ад’ютант камандзіра Брыгады. **Асвяцімскі Марк**, старшыня Слуцкай арганізацыі БПС-Р, сябра ЦК БПС-Р. Нарадзіўся 24 красавіка 1886 г. у Слуцку. Арыштаваны 11 лютага 1938 г. у Гомелі. Расстраляны 10 лістапада 1939 г. у Мінску. **Асіповіч Фелікс**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Астаповіч Антон**, шараговы Брыгады. **Астаповіч Вінцук**, шараговы Брыгады. **Астрэйка Антон**, шараговы Брыгады. Слухач настаўніцкіх курсаў. **Аўтка Кастусь**, шараговы Брыгады.

**Бабарэка Пётра**, сябра Рады Случчыны. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Старыцы Пукаўскай воласці. За ўдзел у слуцкіх падзеях упершыню арыштаваны ў жніўні 1922 г. Быў асуджаны на тры гады ўмоўна. 8 ліпеня 1938 г. Зноў арыштаваны за контррэвалюцыйную дзейнасць. Загінуў у ГУЛАГу. **Багдановіч Кастусь**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Багрыцэвіч Ігнат**, шараговы Брыгады. **Багушэвіч Язэп**, капітан Брыгады. **Бадылевіч Якуб**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Бакіноўскі Антон**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Балацэвіч Адам**, шараговы Слуцкага палка. **Балвановіч Павел**, шараговы Брыгады. **Балвановіч Раман**, шараговы Брыгады. **Бандарэвіч Васіль**, шараговы Брыгады. **Бараноўскі Адам**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Бараноўскі Аляксандр**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у засценку Яроўка (каля в.Машчыцы). Арыштаваны 18 чэрвеня 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў. **Бараноўскі Андрэй**, сакратар Слуцкай арганізацыі БПС-Р. Нарадзіўся ў 1895 г. у в.Машчыцы Слуцкага павета. Арыштаваны ў ноч на 26 студзеня 1938 г. 1 верасня 1938 г. растраляны ў Мінску. **Бараноўскі Дзяніс**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1895 г. у в.Белае Балота. Арыштаваны 28 траўня 1929 г., асуджаны на 3 гады канцлагераў. **Бараноўскі Фёдар**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. Паходзіў з в.Машчыцы. **Барысавец**, сябра Рады Случчыны, афіцэр Брыгады, настаўнік з Раманаўскай воласці. **Барысевіч Павел**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Барысевіч Пётра**, шараговы Брыгады. **Барысевіч Рыгор**, шараговы Брыгады. **Барысевіч Якуб**, шараговы Брыгады. **Баткоў Сямён**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Бачко Іван**, шараговы Брыгады. Жыхар в.Лапацічы. **Бачко**, штабс-капітан, член ваеннай тройкі, афіцэр Брыгады. **Баязетаў Незам**, шараговы Брыгады. **Берасневіч Франц**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Берлінаў Тамаш**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Бернат Пётра**, капрал Брыгады. **Беспалы Сямён**, шараговы Брыгады. **Борай Мірон**, шараговы Брыгады. **Борык А**., капітан, начальнік агульнага аддзела БВК, начальнік штаба Брыгады. **Бранавіцкі Іпаліт**, афіцэр Брыгады, зялёнадубец. **Бранавіцкі Павел**, паручнік, камандзір 5 роты 1 Слуцкага палка, зялёнадубец, атаман аддзела. **Бржазоўскі Мацвей**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Бусел Сергей Нікіфаравіч**, сябра Рады Случчыны, сябра Слуцкай арганізацыі БПС-Р. Нарадзіўся 19 лютага 1901 г. у в.Сухаўчыцы Быстрыцкай вол. Арыштаваны 27 кастрычніка 1939 г. у Вільні. Прыгавораны да 15 год зняволення. **Будзілаў Дарафей**, сяржант Брыгады.

**Валаткевіч Ілля**, шараговы Брыгады. **Валоцька Піліп**, сябра Рады Случчыны, загінуў у першым баі. **Вайцаховіч Ігнат**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Варанецкі Васіль**, шараговы Брыгады. **Васілевіч Кузьма**, шараговы 2 роты 1 Грозаўскага палка. **Васілевіч Пётра**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Васілевіч Сяргей**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка **Васюк Ілля**, ст.шараговы 1 Слуцкага палка. **Ваўчок Пётра**, шараговы Брыгады. **Велімовіч Міхась**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Вечар Сцяпан**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў 1892 г. у в.Шулякі Грэскай вол. Арыштаваны ў 1937 г. Загінуў у ГУЛАГу. **Вечар-Шчарбовіч**, шараговы Брыгады. **Віткоўскі Пётра**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Волат Антон**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Волат Ануфрый**, капрал 1 Слуцкага палка. **Волат Мартын**, шараговы Брыгады. **Волат Павел**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1894 г. у в.Замосце. **Всцісло Язэп**, капрал Брыгады. **Вышэмірскі Лявон**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Вярбіцкі Гаўрыла**, узводны 1 роты 2

Грозаўскага палка. **Вяргейчык Васіль**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Вяргейчык Макар**, шараговы Брыгады.

**Ганчарык Рыгор**, шараговы Брыгады. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі. **Гапановіч Васіль**, узводны Брыгады. **Гарбаты Язэп**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Гайдук**, штабс-капітан, загадчык арсенала Брыгады. **Гайдукевіч Платон**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Ганчар Васіль**, шараговы Брыгады. **Гарасевіч Людвік**, шараговы Брыгады. **Гаўрыловіч Ахрэм**, падпалкоўнік. Камандаваў 1 батальёнам Брыгады, з 28 лістапада - 1 Слуцкім палком. Сябра “Зялёнага Дуба”. Быў асуджаны ў снежні 1925 г. да пяці гадоў папраўча-працоўных лагераў. Далейшы лёс невядомы. **Гедзіч Мікалай**, шараговы Брагады. **Гнароўскі**, капітан, намеснік камандзіра 2 Грозаўскага палка. **Гофман Ян**, шараговы Брыгады. **Грынкевіч Адам**, шараговы Брыгады. **Грынюк Пётра**, шараговы Брыгады. **Грыцкевіч Ян**, шараговы Брыгады. **Гузней Якуб**, паручнік, камандзір 1 роты 1 Слуцкага палка. **Гурленя Сямён**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Гурскі Даменік**, шараговы Брыгады. **Гурыновіч Антон**, шараговы Брыгады. **Гурыновіч Давід**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка.

**Давідовіч Стэфан**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Давідовіч Ілля**, шараговы Брыгады. **Давыдоўскі Васіль**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в.Шышчыцы. **Давыдоўскі Сцяпан**, шараговы. Паходзіў з в.Каліта. **Данілевіч Стэфан**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Данілюк Фёдар**, паручнік, афіцэр Брыгады, святар Беларускай Аўтакефальнай царквы ў Амэрыцы, памёр у 1960 г. **Дарэўскі Аляксандр**, шараговы Брыгады. **Даўладны Ахмет**, шараговы Брыгады. **Даўшэўчык Астап**, узводны Брыгады. **Дварэцкі Аляксей**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Дзілендзік Мікалай**, капрал 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Дзмітраў**, шараговы Брыгады. **Дзянісаў Сцяпан**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Добржанскі Язэп**, капрал 1 Слуцкага палка. **Доўбік Міхась**, капрал 1 роты 1 Слуцкага палка. **Дробыш Васіль**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в.Ленькі Грэскай вол. Арыштаваны ў 1937 г. **Дубіна Міна**, сябра Слуцкай Рады, сябра Слуцкай арганізацыі БПС-Р. **Дубіна Улас**, сябра Слуцкай Рады; сакратар Нацыянальнага камітэта; сябра Слуцкай арганізацыі БПС-Р. Нарадзіўся ў 1888 г. у в.Ісерна Слуцкага павета. Затрыманы 4 мая 1933 г. У ліпені 1933 г. высланы з Беларусі за антыкалгасную і антысавецкую агітацыю. **Дробыш Іван**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Дубінін Філімон**, шараговы Брыгады. **Дубовік Іван**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Дутка**, паручнік, афіцэр Брыгады.

**Ельніцкі Сымон**, шараговы Брыгады. **Есіповіч Піліп**, шараговы 1 Слуцкага палка, паходзіў з хут.Селішча. **Есьман Антон**, шараговы 1 Слуцкага палка.

**Жаўняровіч Амельян**, узводны 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Жаўрыд Павел**, кіраўнік паўстання. З 1921 г. у Вільні ўваходзіў у Віленскі БНК, быў адным з закладнікаў Таварыства беларускай школы. 18.07.1930 г. арыштаваны ОГПУ па справе “СВБ”. 10 красавіка 1931 г. асуджаны на 3 гады спецлагераў. У 1937 г. паўторна арыштаваны, засуджаны на 10 год канцлагераў, потым расстраляны. **Жаўрыд Юльян**, шараговы Брыгады, нарадзіўся у 1900 г. у м.Старобін. **Жмайлік Язэп**, шараговы Брыгады. **Жуковіч**, афіцэр Брыгады. **Жываглодаў Аляксей**, шараговы Брыгады. **Жышкевіч Кастусь**, капрал 1 Слуцкага палка. **Забродскі Фёдар**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Забродскі Ян**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Залесскі Кастусь**, шараговы Брыгады. Жыхар Слуцка. **Залесскі Язэп**, капітан, афіцэр Брыгады. Узнагароджаны за баявыя заслугі. **Заранчук Макей**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Заяц Антон**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў 1899 г. у в.Ленькі Грэскай воласці. **Заяц Зміцер**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Заяц Ян**, капрал 1 роты 2 Грозаўскага палка. Паходзіў з в.Лесішча. **Зелевіч Іван**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Зелевіч Макар**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Зелевіч Павел**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Зеневіч Антон**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў 1892 г. у в.Вялікія Баравыя. Растраляны ў 1938 г. у Слуцку. **Зеневіч Іван**, шараговы Брыгады. **Зеневіч Рыгор**, шараговы Брыгады. **Зубовіч**, шараговы Брыгады.

**Ігнатовіч Сцяпан**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Ігнатовіч Сямён**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Ігнацьеў Мікалай**, малодшы мед.фельшар 3 роты 2 Слуцкага палка. **Іллюкевіч Пётра**, капрал 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Ісаенка Андрэй**, шараговы Брыгады.

**Кавальскі Вікенцій**, шараговы. Нарадзіўся ў 1897 г. у в.Набушава. **Казак Палікарп**, шараговы Брыгады. **Казак Станіслаў**, шараговы Брыгады. **Казак Франц**, шараговы 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1895 г. у в.Рудня Грэскай вол. У снежні 1921 г. арыштаваны і судзімы. **Казак Язэп**, шараговы 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся у в.Рудня Грэскай вол. У снежні 1921 г. арыштаваны і судзімы. **Казека**, паручнік, афіцэр Брыгады. **Казлоўскі Адам**, шараговы Брыгады. **Каляда Фёдар**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Калядзінскі Антон**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Калядка Рыгор**, шараговы Брыгады. **Канаплянік Язэп**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Кандыбовіч Пётра**, шараговы Брыгады. **Канторскі**, афіцэр Брыгады, былы артыст Беларускага тэатра. **Капелюш Вінцук**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Карабельнік Максім**, шараговы Брыгады. **Караневіч Майсей**, ст.медфельдшар 3 роты 1 Слуцкага палка. **Карэлька Іван**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Караффа-Корбут Іван**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в.Кулакі, шляхціц. Арыштаваны 30 траўня 1929 г., асуджаны на 3 гады канцлагераў. **Каржанеўскі Мікалай**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Карынкевіч Аляксандр**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Каролік Адам**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Карповіч Мікалай**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Кахановіч**, паручнік, ад'ютант штаба 1 Слуцкага палка. **Кашкарэвіч**, прапаршчык, начальнік гаспадарчай часткі 1 Слуцкага палка. **Кернажыцкі Лявон**, шараговы Брыгады. **Кернажыцкі Н**., паручнік, камандзір 6 роты 1 Слуцкага палка. Узнагароджаны за баявыя паслугі. У 1939 г. высланы ў Сібір. **Кірко Ілля**, шараговы Брыгады. **Кірко Юльян**, шараговы 1 роты Грозаўскага палка. **Кісель Нічыпар**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Кісель Пётра**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Кіслюк Пётра**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Кітовіч**, паручнік, афіцэр Брыгады. **Кітуновіч Несцер**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Кіш Сяргей**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Грывень. Загінуў у баі. **Клачкоў Аляксандр**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Клебановіч Антон**, шараговы Брыгады. **Клебановіч Міхась**, шараговы Брыгады. **Клішэвіч**, падпаручнік, афіцэр Брыгады. **Клюка**, капітан, афіцэр Брыгады. **Ключановіч Трыфан**, шараговы Брыгады. **Ключановіч Міхась**, шараговы Брыгады. Паходзіў з м.Старобін, **Кобель Франц**, шараговы. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Ленькі. У 1930 г. сасланы ў Сібір. **Коберец Міхась**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Кажушкі. Вучыўся ў Слуцкай гімназіі і вайсковай школе Лодзі. Памёр у 1927 г. у Празе. **Колпак Аляксей**, паручнік, камандзір 3 батальёна 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся у в.Старыца. **Копец Іван**, паручнік, камандзір роты. **Корбут Стэфан**, шараговы Брыгады. **Корзун Антон**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. Нарадзіўся ў в.Шышчыцы. **Корзун Віктар**, шараговы Брыгады. **Коршак Ян**, сержант 1 Слуцкага палка. **Косцел Васіль**, шараговы Брыгады. **Коўган Агей**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Коўган Даніла**, капрал 1 Слуцкага палка. **Кракасевіч Алексей**, шараговы Брыгады. **Крот Герасім**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Крук Цімафей**, узводны 1 Слуцкага палка. **Крукоўскі Антон**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Крукоўскі Васіль**, паручнік, камандзір 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Крываль Мікалай**, ст.ыпадафіцэр 1 Слуцкага палка. **Крыж Сямён**, узводны 1 Слуцкага палка. **Крыжаноўскі**, капітан, афіцэр Брыгады. **Крыжаноўскі Цімафей**, узводны 1 Слуцкага палка. **Крышэўскі Іван**, шараговы 3 роты, 2 Грозаўскага палка. **Кузьменка Рыгор**, шараговы Брыгады. **Кулікоўскі Стэфан**, шараговы Брыгады. **Курбыка Дзям'ян**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у в.Замосце. **Курыловіч А**., паручнік, камандзір 2 роты 1 Слуцкага палка. **Кухто Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Лучнікі.

**Лабкоўскі Ян**, шараговы Брыгады. **Лапковіч-Корчык Язэп**, ст.пісар 2 роты 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1891 г. у в.Заўшчыцы Старобінскай воласці. У 1920-30-я гады - вядомы дзеяч КПЗБ. Арыштаваны ў лютым 1939 г. Загінуў у ГУЛАГу. **Лагун Аляксей**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Лагун**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Лагуновіч Ігнат**, капрал 1 Слуцкага палка. **Ламак Нічыпар**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Лапковіч Ян**, шараговы Брыгады. **Леановіч Кузьма**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Ласько Пётр**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Цараўцы. **Леановіч Сцяпан**, шараговы росты 2 Грозаўскага палка. **Лембовіч Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Амговічы. Зялёнадубец. **Лебедзевіч Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Кажушкі. **Лемеш Піліп**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в.Падлессе. Арыштаваны 26 траўня 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў. **Лерух Якуб**, шараговы Брыгады. **Лесун Зміцер**, сержант Брыгады. **Леташ Захар**, шараговы Брыгады. **Лешчанка Адам**, ст.шараговы 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1903 г. ў в.Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Аляксандр Адамовіч**, узводны Брыгады. Нарадзіўся ў 1893г. у в.Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Аляксандр Антонавіч**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў1904 г. у в.Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Аляксандр Іванавіч**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в.Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Аляксандр Людвігавіч**, ст.падафіцэр 1 Слуцкага палка, камандзір

узвода. Нарадзіўся ў 1897 г. у в.Замосце. У 1933 г. судзімы за антыкалгасную агітацыю. **Лешчанка Гаўрыла**, шараговы Брыгады. **Лешчанка Іпаліт**, узводны Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в.Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Мікалай**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Лешчанка Міхась**, шараговы. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Палікарп**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1893 г. у в.Замосце. Арыштаваны і сасланы ў 1930 г. **Лешчанка Фёдар**, шараговы Брыгады. **Лешчанка Франц**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1894 г. у в.Рудня. Судзімы ў 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Юльян**, шараговы 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1904 г. у в.Замосце. Арыштаваны ў сакавіку 1930 г. і сасланы. **Лешчанка Язэп**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Ліхадзіеўскі Антон**, шараговы Брыгады. **Лосік Аляксей**, шараговы Брыгады. **Лосік Андрэй**, шараговы Брыгады. **Лосік Павел**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Лук'янчук Фёдар**, паручнік Брыгады. **Лушчыцкі Міхась**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у м.Семежава. Арыштаваны ў траўні 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў.

**Малыш Фёдар**, шараговы Брыгады. **Маеўскі Ян**, шараговы Брыгады. **Мажэйка Стэфан**, шараговы Брыгады. **Макарэня Навум**, шараговы Брыгады. **Макоўскі Вікенцій**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1897 г. у в.Каліта. У 1930 г. сям'ю раскулачылі і саслалі. Растраляны ў лютым 1937 г. **Макоўскі Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Каліта. **Макоўскі Ілля**, шараговы Брыгады 1 Слуцкага палка. **Макоўскі Рыгор**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у в.Каліта. У 1929 г. сям'ю раскулачылі і саслалі. Растраляны ў жніўні 1937 г. **Макоўскі Язэп**, шараговы Брыгады. **Маліноўскі Пётра**, шараговы 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1902 г. у в.Ульянаўка. **Маркевіч Аляксандр**, каптэрнамус Брыгады. Нарадзіўся ў 1896 г. у Слуцку. У красавіку 1929 г. арыштаваны, асуджаны на тры гады канлагераў. Загінуў у ГУЛАГу. **Масілевіч Леонцій**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Маскалевіч Павел**, капрал Брыгады. **Маскалевіч Іван**, малодшы падафіцэр Брыгады 1 Слуцкага палка. **Мацелі Іван (Ян)**, камандзір 2-га батальёну 2 Грозаўскага палка, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў слуцкай народнай міліцыі. Нарадзіўся ў 1892 г. у Лунінецкім павеце. Зялёнадубец. **Маціс Уладзімір**, шараговы Брыгады. **Машчыцкі Іван**, капрал 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Мікіцюк Франц**, шараговы Брыгады. **Мінькевіч Кліменцій**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Мірановіч Юльян,** шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1900 г. у Слуцку. **Мірановіч А**., ротмістр, начальнік контрвыведкі Брыгады. Зялёнадубец. **Міскевіч Іван**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Каліта. Асуджаны ў 1937 г. на 10 год лагераў. **Міхайлоўскі Рыгор**, капрал Брыгады. **Міхайлоўскі Мікалай**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у в.Селішча. Арыштаваны 27 мая 1929 г., асуджаны на 3 гады канцлагераў. **Міхасёнка Трахім**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Міхневіч Пётра**, шараговы Брыгады. **Міхневіч Язэп**, шараговы Брыгады. **Мурашка Фёдар**, шараговы Брыгады, жыхар в.Селішча. **Мыслівец Сцяпан**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Мялешка Цярэнцій**, малодшы медфельчар 3 роты 1 Слуцкага палка. **Мяшэчак Цімафей**, адзін з арганізатараў паўстання.

**Навіцкі Васіль**, шараговы Брыгады. Паходзіў з м.Семежава. **Насенка Аляксандр**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Наўмовіч Уладзімір**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Немковіч Аляксандр**, капрал Брыгады. **Нечай Уладзімір**, капрал 3 роты 1 Слуцкага палка. **Новік Андрэй**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Новік Купрэй**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Новік Віктар**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Новік Павел**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Няронскі Ануфрый (Ануфрэй)**, штабс-капітан, начальнік гаспадарчай часткі. Адзін з арганізатараў Брыгады. У 1932 г. асуджаны “тройкай” на 5 год лагераў.

**Памашынскі**, сяржант. **Пархімовіч Ян**, узводны 1 Слуцкага палка. **Паўлюкевіч Арсень**, доктар Брыгады, арганізатар і кіраўнік шпіталю. Нарадзіўся ў 1889 г. У 1928 г. як савецкі шпіён асуджаны польскім судом на 12 год катаргі. **Пацкевіч Аляксандр**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Замосце. **Пацкевіч Антон**, узводны Брыгады. Нарадзіўся ў 1891 г. у в.Замосце. Сям'я мела 7 дзесяцін зямлі. Сасланы на Украіну ў сакавіку 1930 г. **Пацкевіч Фларыян**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1892 г. у в.Замосце. **Пашкевіч Сцяпан**, шараговы 2 Грозаўскага палка. **Пекарчык Максім**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Пенеха Кастусь**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Пенязь Ануфрый**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Падлошыца Амговічскага сельсавета. Сасланы ў 1937 г. **Перко Стэфан**, капрал 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Пісарык Афанасій**, шараговы Брыгады. **Петручэня Сідар**, шараговы Брыгады. **Пешка-Густалес Іван**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Грывень. У 1939 г. арыштаваны як польскі шпіён. У лютым 1940 г. ваенным трыбуналам прыгавораны да 10 год лагераў. **Пілецкі Рыгор**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка.

**Познякевіч Павел**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1892 г. у в.Замосце. **Понтус Антон**, паручнік 1 Слуцкага палка. **Понтус Міхаіл**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Пракаповіч Арцём**, узводны Брыгады. **Пракаповіч Лаўрэнцій**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Пракаповіч Рыгор**, шараговы Брыгады. **Пракулевіч Уладзімір**, кіраўнік паўстання. З 1921 г. у Вільні ўваходзіў у Віленскі БНК. У 1922 г. у ліку “33-х” высланы польскімі ўладамі ў Літву; быў кааптаваны ў склад ураду БНР Вацлава Ластоўскага на пасаду дзяржаўнага сакратара. З 1925 г. у БССР, працаваў у Інбелкульце і Беларускай Акадэміі навук. Арыштаваны ГПУ па справе “Саюза вызвалення Беларусі” 18.07.1930 г. У красавіку 1932 г. на 5 год высланы ў Перм. У 1938 г. пасля паўторнага арышту расстраляны. **Пратасевіч Кірыла**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Селішча. Арыштаваны ў красавіку 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў. **Прахарэвіч Андрэй**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Працэвіч Ян**, шараговы Брыгады. **Пушкайла Пётр**, шараговы Брыгады. **Прохараў Васіль**, шараговы Брыгады.

**Рабы**, сябра Рады Случчыны. **Рагасевіч Аляксей**, шараговы Брыгады. **Радюкевіч Міхась**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Востраў-Боркі. **Ражанец Пётр**, шараговы Брыгады. **Рамановіч**, начальнік каравульнай роты 1 Слуцкага палка. **Рачыцкі Уладзімір**, шараговы Брыгады. **Рогач Сяргей**, падпаручнік Брыгады, Нарадзіўся ў 1891 г. у в.Шышчыцы, камандзір 2-й кампаніі падчас інтэрнавання 1 Слуцкага палка. **Русак Васіль**, сябра Рады Случчыны. Нарадзіўся ў 1896 г. Падчас з’езду жыхароў Случчыны абраны яго старшынёй, увайшоў усклад прэзыдыума Беларускай Рады Случчыны. У канцы 1922 г. выехаў на вучобу ў Чэхаславаччыну. З 1931 г. узначальваў Праскі Беларускі нацыянальны камітэт. Пасля прыходу ў 1944 г. у Чэхаславаччыне да ўлады камуністаў быў выдадзены савецкім уладам і вывезены ў Мінск. Асуджаны на канцлагер, памёр у зняволенні ў пачатку 1950-х гг. **Рыдлеўскі**, шараговы Брыгады. **Рынейскі Антон**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Рэўт Яўген**, афіцэр разведкі Брыгады. Нарадзіўся ў 1899 г. у Слуцку. У 1921 г. быў завербаваны ЧК, адначасова з’яўляўся агентам польскай выведкі. Асуджаны ЧК па т.зв.”савінкаўскай справе” у жніўні 1921 г. у Мінску, расстраляны ў лютым 1922 г. **Рабцаў Ціт**, шараговы Брыгады, паходзіў з в.Каліта.

**Савановіч Аляксандр**, падпаручнік, камандзір 3 роты 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1893 г. у в.Лучнікі. Арыштаваны у красавіку 1933 г., асуджаны на 5 год лагераў. У траўні 1989 г. рэабілітаваны. **Савельеў Алесь**, шараговы Брыгады. **Савіцкі Валер’ян**, медфельшар 3 роты 1 Слуцкага палка. **Сак Юльян**, шараговы Брыгады. **Сакалоўскі Станіслаў**, шараговы 1 роты 2 Грозаўскага палка. **Салавец Стэфан**, шараговы Брыгады. **Самойлік Стэфан**, шараговы Брыгады. **Самусевіч Андрэй**, падафіцэр 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Самусевіч Антон**, капітан, афіцэр арміі генерала Булак-Балаховіча і Брыгады БНР. Нарадзіўся ў жніўні 1892 г. у Слуцку. У студзені 1920 г. арыштаваны ЧК за “спекуляцыю”, асуджаны на 5 год прымусовай працы, але дабіўся амністыі. У 1920-22 гг. актыўна ўдзельнічаў у антысавецкай партызанскай барацьбе. Расстраляны ў кастрычніку 1922 г. пры трэцяй спробе ўцячы з мінскай турмы. **Самусевіч Ілля**, шараговы Брыгады. **Самусевіч Ілля Іванавіч,** шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Самусевіч Ілля Сямёнавіч**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Самусевіч Пётра**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Санько Мітрафан**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Сараговец Тодар**, шараговы Брыгады. **Сарокін Сяргей**, шараговы Брыгады. **Сасіноўскі Базыль**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Сасіноўскі Мікалай**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Сасіноўскі Павел**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Сасноўскі Іван**, шараговы Брыгады, паходзіў з в.Набушава. **Семашка Ян**, афіцэр Брыгады. **Семенюк Ваўруц**, шараговы Брыгады. **Семяняка** (ці **Сямёнік** ) **Лукаш** , капітан, камандзір 2 Грозаўскага палка. **Сенюк Васіль**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Гулевічы. **Сеўрук Васіль**, ст.падафіцэр 1 Слуцкага палка. **Сеўрук Якаў**, шараговы Брыгады. Паходзіў з в.Набушава. У 1933 г. асуджаны на 5 год папраўча-працоўных лагераў. **Сідарэвіч Алесь**, шараговы Брыгады. **Скуцэна Саўва**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Славашэвіч Максім**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка. **Славінскі Стэфан**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Слебцэвіч Цімафей**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Смірноў Аляксандр**, шараговы Брыгады. **Смоліч Кастусь**, узводны 1 Слуцкага палка. **Сокал-Кутылоўскі Антон**, камандзір Брыгады. Нарадзіўся 7 лютага 1892 г. на хут. Перавалокі-Дарагішча (пазней в.Чырвоная Горка) Чучавіцкай воласці Лунінецкага павета. Шляхціц. Удзельнік Першай сусветнай вайны, ваяваў у Галіцыі, Літве. Узнагароджаны салдацкім георгіеўскім крыжам. Удзельнік грамадзянскай вайны, ваяваў у войсках Дзянікіна, Юдзеніча. 19 чэрвеня 1941г. упершыню арыштаваны. Сям’я была выслана. У перыяд нямецкай акупацыі працаваў школьным інспектарам у Ганцавічах, выкладаў геаграфію і беларускую мову ў беларускай вайсковай школе, так званым Першым кадравым батальёне. 18 красавіка 1945 г. прыняў камандаванне

батальёнам беларускага палка, з каторым 30 красавіка 1945 г. здаўся амерыканскім войскам. У жніўні 1945 г. інтэрнаваны ў Савецкі Саюз. З 25 снежня 1945 г. па кастрычнік 1947 г. знаходзіўся ў Паўночнапячэрскім лагеры. 20 красавіка 1948 г. Ваенным трыбуналам МУС Беларускай акругі быў асуджаны на 25 год зняволення. У жніўні 1956 г. тэрмін зняволення быў скарочаны да 13 год. **Статкевіч Пётра**, падафіцэр 1 Слуцкага палка. **Сташэўскі Антон**, капрал 1 Слуцкага палка. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Каліта. 27 лістапада 1937 г. расстраляны ў Слуцку як “польскі шпіён”. **Струкоўскі Ян**, шараговы Брыгады, паходзіў з м.Грозава. **Стружынскі Ян**, сяржант 1 Слуцкага палка. **Сукало Язэп**, шараговы Брыгады. Сябра БПС-Р. Нарадзіўся ў 1902 г. у в.Гулевічы. Арыштаваны 30 траўня 1929 г. і асуджаны на 3 гады канцлагераў. **Сулкоўскі Іван**, шараговы Брыгады, сын святара, паходзіў з-пад Слуцка. Вучыўся ў вайсковых школах Лодзі і Быдгошчы. **Сумар Пётр**, шараговы Брыгады. **Супрыяновіч Зміцер**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Сухоцкі Пётр**, капрал Брыгады. **Сучкоў Павел**, капрал 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Сучкоў Цімафей**, сяржант 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Сучкоў Цярэнцій**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Сцепурко Пётр**, шараговы 4 роты 2 Грозаўскага палка.

**Таран Кірэй**, мал.падафіцэр 3 роты 1 Слуцкага палка. **Таранаў Наум**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Тарасевіч Адам**, шараговы Брыгады, паходзіў з в.Замосце. **Тарасевіч Аляксандр Адамавіч**, шараговы Брыгады, нарадзіўся у 1892г. У в.Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 г. **Тарасевіч Аляксандр Дзем’янавіч**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1898 г. у в.Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 г. **Тарасевіч Антон**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Тарасевіч Ануфрый (Ануфрэй)**, шараговы Брыгады, нарадзіўся ў 1899 г. у в.Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 г. **Тарасевіч Казімір**, шараговы 1 Слуцкага палка, нарадзіўся ў 1898 г. у в.Замосце. Асуджаны на высылку ў 1930 г. **Тарасевіч Людвік**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Трахімовіч Мікіта**, шараговы 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Трахімовіч Стэфан**, капрал 2 роты 2 Грозаўскага палка. **Трушко Іван**, шараговы Слуцкага палка, жыхар хутара Селішча. **Тупік Васіль**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Тупік Іван**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Тычына Язэп**, шараговы Брыгады.

**Урбановіч Іван**, шараговы Брыгады. Нарадзіўся ў 1900 г. у в.Кажушкі. Вучыўся ў гімназіі Слуцка, вайсковых школах Лодзі і Варшавы. Застаўся служыць у польскай арміі. **Фалей Ян**, шараговы Брыгады. **Федаровіч Алесь**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Федаровіч Аляксандр**, шараговы 3 роты 2 Грозаўскага палка. **Федаровіч Павел**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Федасеня-Хвядашчэня**, афіцэр Брыгады, арганізатар партызанскага руху, зялёнадубец. **Фядзюшка Язэп**, шараговы Брыгады. Паходзіў з хут.Салішча. **Філіповіч Міхась**, шараговы Брыгады. **Філіповіч Раман**, шараговы 3 роты 1 Слуцкага палка. **Хаўстовіч Павел**, шараговы Брыгады. Паходзіў з вескі Набушава. **Хацько Аляксандр**, шараговы 1 Слуцкага палка. **Цагойка Купрыян**, шараговы Брыгады. **Цішкевіч Навум**, капрал Брыгады.

**Чыгір Пётра**, шараговы Брыгады. **Чыж Антон**, шараговы Грозаўскага палка. **Шот Якуб**, шараговы 4-й роты Грозаўскага палка. **Шуба Язэп**, шараговы Брыгады. **Юржыц Ян**, шараговы 3-й роты Грозаўскага палка. **Якубецкі Андрэй**, маёр, камандзір Брыгады. **Яноўскі Язэп,** шараговы Брыгады.

## Piotra Murzionak: Conscious uprising for an independent Belarus

***(Abstract, magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.25-38)***

The Slutsk defence action/uprising occurred at the end of 1920 during the Polish-Soviet war. During the uprising the fighting between the Belarusian forces committed to the Belarusian People Republic (BNR) and the Red Army passed between November 27 and December 31, 1920. Military and political conditions around the Slutsk uprising, parrticipants, and military actions are described. The list of uprising participants is ammended. On November 27, Belarusians of the world are celebrating the Day of Heroes.

**Сяргей Панізьнік: Глядзіце сонцу ў вочы**

*(з берагоў латвійскага Надзвіньня)*

Шырока-юбілейны 2017 год займеў багаты пасаг і пры ўшанаваньнях 135-годдзя ад нараджэньня волатаў народнага духу, будзіцеляў нацыі Янкі Купалы і Якуба Коласа. А што было 8 дзесяткаў гадоў назад на мацерыку старажытнай жыткі беларусаў – падсуседзяў латышоў?

У 1920-х гадах у Латвіі пражывала каля 80 тысяч беларусаў. І вось 18 жніўня 1921 года Ян Райніс, лідэр сацыял-дэмакратычнай партыі Латвіі, на просьбу кіраўнікоў Беларускага культурна-асьветнага таварыства “Бацькаўшчына” быць апекуном беларусаў, прамовіў сваім суайчыньнікам: “Вы ў мяне заўсёды знойдзеце ў добрых справах добрага абаронцу”. І вось сярод тысяч добрых спраў латвійскіх беларусаў згадаем пад парасонам 135-годдзя Купалы-Коласа, а як праходзілі 50-я ўгодкі нашых геніяў, як вірлівая камедыя Янкі Купалы “Паўлінка” здымала спазмы абыякавасьці-тутэйшасьці, абуджала душы крывіцкага тубыльца ў Латвіі.

Вядома, што камедыю ў двух актах Я. Купала стварыў у 1912 годзе. 27 студзеня 1913 года “Паўлінка” была пастаўлена ў Вільні, 9 лютага 1913 года – у Пецярбургу, 17 верасьня 1920 года п’есай зацікавіўся Ф. Ждановіч. З 1922 года да 1925 года гэтым творам укаханага аўтара апекавалася ў Латвіі Паўліна Мядзёлка, якая ў Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі заснавала хор і драматычны гурток. Шэсьце “Паўлінкі” з Дзвінску і пачалося па ўсёй Латвіі. Побач яе заўсёды былі Янка Купала з Якубам Коласам.

***

…Сьмела глядзім мы нязгаснаму сонцу у вочы
І усьмяхаемся дзёрзка, убачыўшы ў ніве залом.
- Досіць, - пяём мы, - блудзіць на задворках уночы,
Праўды сьвятло ў каганцох мы народу нясём!

(З верша Пятра Сакола (Масальскага) “Песьні”, напісанага 14 верасьня 1927 г. з пазнакай: “Ахвяруецца вучням Дзьвінскай Беларускай Гімназіі”).

***

Камедыя “Паўлінка” ўпершыню ў Латвіі была пастаўлена ў сьнежні 1922 года на ўрачыстым адкрыцьці Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі. Спектакль падрыхтавала выкладчыца Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка, галоўную ролю выканала яе вучаніца Надзея Мікалаева.

***

“Паўлінка” у Люцынскай беларускай гімназіі ставілася некалькі разоў на працягу 1923—1924 гг., дзякуючы стараньням драматычнага гуртка, якім апекавалася Надзея Мікалаева. З Люцына Яну Райнісу быў перададзены фотаздымак Паўлінкі (Надзеі Мікалаевай) з такім надпісам: “Яго міласьці Высокапаважанаму Грамадзяніну дэпутату Я. Райнісу ад Люцынскай Беларускай гімназіі на ўспамін. 28 сакавіка 1923 года”. На адвароце карткі - пячатка Беларускага культурна-асьветнага таварыства “Бацькаўшчына”

***

10 сакавіка 1924 года тэатральная група Дзвінскай беларускай гімназіі была запрошана Я. Райнісам для выступленьня ў Латышскім Нацыянальным тэатры. І пастаноўку “Паўлінкі”, і выступленьне хору высока ацаніў дырэктар тэатра Яніс Райніс. “У часе антракту і пасля канцэрта, як згадвала П. Мядзёлка, Я. Райніс заходзіў на сцэну, каб пахваліць і падзякаваць за ўдалы сьпектакль і харавыя сьпевы”.

***

Разбудзіў нашы сьпячыя душы
І стаючую кроў узбурліў,
Зацьвярдзелыя сэрцы узрушыў,
Розум сьветлаю думкай наліў.

Так выказалася ў сваім вершы “Яну Райнісу” у 1932 года Вера Вайцюлевіч (псеўданім Вера Гаротная). Першы яе верш надрукаваны ў газеце “Голас Беларуса” 19 студзеня 1927 года. Былі публікацыі ў часопісе “Беларуская школа ў Латвіі”. Яе

творчасць прадстаўлена ў кнізе “Крывіцкія руны: Беларускія пісьменнікі Латвіі”. Мн., 2003. Складаньне і прадмовы Сяргея Панізьніка.

***

24 сакавіка 1926 года Рыжскі Беларускі Народны тэатр (памочнік рэжысёра мастак Міхась Калінін) зьдзейсніў пастаноўку купалаўскай п’есы. На ролю Паўлінкі была запрошана Н. Юроўская. Вясной таго ж 1926 года вучні Дзвінскай гімназіі разам з дырэктарам Сяргеем Пятровічам Сахаравым арганізавалі паход-экскурсію у м. Пустынь (Робежнікі). У Пустыньскай беларускай школе была пастаўлена п’еса “Паўлінка”. На другі дзень перад вучнямі выступіў хор гімназіі.

***

16 красавіка 1926 года ў Рунданах, а 17 красавіка ў Старой Слабадзе Люцынскага павета п’еса Я. Купалы “Паўлінка” была пастаўлена артыстамі Рыжскага Беларускага Народнага Тэатра.

***

Спявай, Пясняр! Хай зыкі тваіх спеваў
Здзяруць з братоў нядолі ланцугі,
Й на нівах бацькаўскіх, між варажых пасеваў
Ўзмацуюць Праўды й Волі каласы!
Чэрвень 1925 г. Люцын. В. Казлоўская

Такімі радкамі заканчваўся верш Валянціны Казлоўскай (псеўданім Лясная Кветка), надрукаваны ў газеце “Голас Беларуса”, № 4, 10 ліпеня 1925 года. Поўнасьцю яго можна прачытаць у кнізе “Пятро Сакол, Валянціна Казлоўская. Выбраныя творы”. Мн., 2016 г. Укладаньне, каментар Міхася Казлоўскага, Сяргея Панізьніка. Прадмова Міхася Казлоўскага.

***

Беларускі Народны Тэатр быў адкрыты 24 сакавіка 1928 года ў Рызе на Чырвонай Дзвіне (вул. Сіманю, 14/16). На пастаноўку п’есы “Паўлінка” запрасілі артыста Латвійскага Нацыянальнага тэатра Яна Шабэрта (вучня Станіслаўскага). Ролю Паўлінкі выконвала Надзея Мікалаева, ролю Пранцыся – Мікола Трубецкі, Альжбеты – Параскева Раманоўская.

***

І прыйдзе новых пакаленьняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі..
Янка Купала, 1926 г.

***

Настаўніца Люцынскай беларускай гімназіі Вольга Сахарава (жонка С. П. Сахарава) у 1927 годзе паставіла казачную феерыю “На Полацкім замчышчы” (паводле паэмы Я. Купалы “Сон на кургане”). У 1932 годзе разам са сваімі навучэнцамі ў Беларускай гімназіі ў Дзвінску ажыцьцявіла пастаноўку новага твора – п’есы “Птушка на волі”, якая паводле сюжэту нагадвала “Паўлінку” Я. Купалы. Частка творчай спадчыны Вольгі Сахаравай прадстаўлена ў кнігах “Вольга і Сяргей Сахаравы. Выбраныя творы”. Мн., 2015 г.; “Крывіцкія руны—2: Беларускі культурны мацярык у Латвіі”. Мн., 2017 г. Укладаньне, прадмова, каментар Міхася Казлоўскага, Сяргея Панізьніка.

***

Часопіс “Беларуская школа ў Латвіі”, № 1 (1932) паведамляў з аналітычным спазненьнем: “Беларускае Культурна-Асьветнае Таварыства “Бацькаўшчына” ў Латгаліі” было закладзена ў Дзвінску 25 сакавіка 1921 году”. Чытаем, што на кватэры Яна Восіпавіча Харлапа 9 прысутных заслухалі даклад К. Б. Езавітава “Гісторыя беларускага адраджэнскага руху” і падпісалі статут Таварыства. На працягу лета былі закладзены Люцынскі, Краслаўскі і Стара-Слабодскі аддзелы

Таварыства. Спрыялі дзейнасці гэтай арганізацыі М. Г. Гарэцкі, І. С. Дварчанін, К. Б. Езавітаў (адзін з кіраўнікоў Цэнтральнага праўленьня), У. А. Жылка, І. І. Краскоўскі, П. В. Мядзёлка, У. В. Пігулеўскі, С. П. Сахараў, Б. Р. Брэжга, Ян Райніс… З сярэдзіны 1920-х гадоў культурна-асьветную работу праводзілі таварыствы “Прасьвета”, “Рунь”, “Аратай”, “Беларуская хата”, “Таварыства беларускага тэатра”, “Таварыства беларускіх вучыцялёў”, “Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў”, “Беларускае выдавецтва ў Латвіі”… Дзейнасьць многіх з іх (з перапынкамі) доўжылася да 1944 года.

***

Часопіс “Беларуская школа ў Латвіі”, №2 (12), ліпень 1932 года, зьмясціў артыкул К. Езавітава “Вялікага беларускага паэту і барацьбіта за лепшую долю працоўных, грамадзяніна Янку Купалу, вітаемо з 50-тымі угодкамі!”

***

Статут Таварыства беларускіх настаўнікаў у Латвіі быў зацьверджаны 2 верасьня 1925 года. У 1927 годзе 80 сяброў Таварыства ўвайшло ў “Агульналатвійскі настаўніцкі хаўрус”. 29 кастрычніка 1932 года гэтае Таварыства заснавала Рыжскую вячэрнюю беларускую прыватную гімназію на вул. Вялікай Маскоўскай, 173. Там і былі адзначаны 50-я ўгодкі Я. Купалы і Я. Коласа. З прамовай выступіў дырэктар гімназіі Родзька Аляксандр Захаравіч. Пасля даклада Канстанціна Езавітава “Янка Купала і Якуб Колас у беларускім адраджэньні” навучэнцы гімназіі і хор выканалі песні на словы паэтаў, прачыталі іх вершы. Пра гэтую падзею згадаў К. Езавітаў у часопісе “Беларуская школа ў Латвіі”, № 6 (16), 1932 г. Гэты навукова-папулярны, педагагічны і літаратурна-грамадскі часопіс беларускай меншасьці ў Латвіі выходзіў у 1926 – 1929 гг., у 1932 – 1933 гг.

***

Культурна-асьветнае таварыства “Беларуская хата” сваю дзейнасьць распачала 20 сьнежня 1924 года сумесна з Рыжскай беларускай вячэрняй школай для дарослых. 30 кастрычніка 1932 года была праведзена вечарына ў гонар 50-годдзя Якуба Коласа. Старшыня таварыства “Беларуская хата” Мікола Дзямідаў выступіў з прамовай. А даклад “Аб значэньні Я. Купалы і Я. Коласа ў нацыянальна-

сацыяльным руху беларускіх працоўных масаў” прачытаў старшыня Беларускага навукова-краязнаўчага таварыства Канстанцін Езавітаў.

***

50-я ўгодкі Янкі Купалы шырока адзначылі ў Дзвінскай беларускай гімназіі 20 лістапада 1932 года. З уступным словам выступіў намеснік дырэктара гімназіі У. Раткін. Рэферат прачытала вучаніца ІУ кл. Л. Чаркоўская. Гімназісты выканалі сцэнічны абразок “На папасе” паводле драматычнай паэмы Я. Купалы. І прачыталі на канцэрце 12 яго вершаў. “Моцныя словы паэта і родная песня дайшлі ўсім да сэрца”, - пісалася ў справаздачы аб сустрэчы ў часопісе “Беларуская школа ў Латвіі”, № 6, 1932 г.

У гэтым жа нумары часопіса паведамлялася і пра тое, што ў сьнежні ў гімназіі прайшла сустрэча на тэму “Якуб Колас і яго творчасьць”. Рэферат прачытаў вучань ІУ кл. З. Юхна. Прагучала 11 вершаў Якуба Коласа і 7 песьняў. Аднакласніца З. Юхны – Я. Кукель прачытала раздзел з паэмы “Новая зямля”.

Пад кіраўніцтвам выкладчыка мовы, літаратуры, гісторыі і геаграфіі Беларусі Якубецкага Андрэя Паўлавіча была паказана яго інсцэніроўка – п’еса “У палескай глушы” паводле аповесці Якуба Коласа (першай часткі яго трылогіі “На ростанях”).

***

У Шушкоўскай беларускай школе Люцынскага павета самымі актыўнымі былі сябры “Таварыства беларускай моладзі ў Латвіі”. 50-я ўгодкі Янкі Купалы імі былі адзначаны 27 снежня 1932 года пастаноўкай п’есы “Раскіданае гняздо”.

***

П’есы Я. Купалы, У. Галубка, Ф. Аляхновіча, Р. Блаўманіса ставіў Камаржынскі Язэп Францавіч - артыст, рэжысёр, культурна-грамадскі дзеяч. Закончыў Беларускія настаўніцкія курсы. У 1922 г. узначаліў Беларускую тэатральную трупу. У 1929 г. настаўнічаў у беларускай школе ў Рызе на Маскоўскім фарштаце, а потым быў прызначаны дырэктарам Беларускага Народнага Тэатра. Артысткай гэтага тэатра была Анастасія Крэйц: Тасюша, як яе называў У. Пігулеўскі. Ролю Паўлінкі выконвала пад прозвішчам сваёй мамы – Вашкевіч. Актыўна іграла ў спектаклях і яе сястра Варвара Крэйц-Вашкевіч.

***

Якуб Колас - Янку Купалу:

Клікаў ён народ свой к волі,
Сеяў зерні поўнай жменяй,
Каб дабра яму даць болей,
А каб крыўды стала меней.

***

Латвійская “Паўлінканіяна” закончылася ў 1949 г. Уладзімір Пігулеўскі пераклаў “Паўлінку” Янкі Купалы на латышскую мову. П’еса была пастаўлена восеньню 1949 года ў Латвійскім мастацкім тэатры імя Я. Райніса. Паўтарэньняў спектакля не было…

***

Але – пра Сонца ў вочы. Эдвард Вайвадзіш з в. Вайвады пад Індрай настаўнічаў у беларускіх школах з 1922 г. У 1926 г. напісаў верш “Гімн вясне”, які пачынаўся такімі радкамі:

Люблю цябе, вясна прыгожая.
Заўсёды ласкавая, гожая,
Заўсёды рэзвая, з усмешкаю
Ідзе да нас квяцістай сцежкаю.

І ў тым жа годзе верш яго трапіў у калектыўны зборнік “Першы крок”, які зладзіў у Рызе К. Езавітаў. А ў серыі “Творцы беларускага замежжа” праз 70 гадоў быў выдадзены ў Мінску зборнік Эдварда Вайвадзіша “Вершы, паэма, згадкі”. У 1997 г. стогадовы паэт і асьветнік стаў сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

… Сонца ў вочы. Яшчэ ў 1926 годзе ў рэцэнзіі на зборнік вершаў гуртка маладых беларускіх паэтаў у Латвіі “Першы крок” Уладзімір Жылка пісаў у Празе: “Куток беларускага Надзвіньня, апынуўшыся пад Латвіяй, не згублены для беларускай культуры”.

 *ISSN 2291-4757*

І берагі гэтага Наддзвіньня будуць глядзець не толькі Сонцу ў вочы, але і лагодзіць аблiччы прыхільнікаў дыфузіі культур, абуджаць беларускі культурны мацярык у Латвіі.

Сяргей Панізьнік

**Здымкі да артыкула С. Панізьніка “Глядзіце сонцу ў вочы”**




4-ты выпуск Дзвінскай гімназіі. 1926 г. Дырэктар С.П. Сахараў



Вера Вайцюлевіч (Гаротная). Здымак С. Панізьніка ў Мінску (1983)



Пастаноўка "Паўлінкі" у Рыжскім Беларускім Народным Тэатры. Сядзіць справа выканаўца ролі Паўлінкі Анастасія Вашкевіч-Крэйц, за ёй стаіць у шапцы Міхась Калінін. *Рыга, 1931 г.*



Эдвард Вайвадзіш каля свайго дома ў в. Вайвады пад Індрай.

*Здымак С. Панізьніка. 1992*



Паўліна Мядзёлка побач дырэктара Дзвінскай гімназіі І.І. Краскоўскага...




Вольга і Сяргей Сахаравы з артыстамі пастаноўкі казачнай феерыі "На Полацкім замчышчы"



Пятро Масальскі з Сяргеем Панізьнікам.
*Здымак Вячаслава Целеша, 7 верасьня 1978 г., Рыга.*

**Siargey Paniznik: See into the Eyes of the Sun**
***(Abstract, magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.39-50)***

The written by S. Paniznik introduces us into the period between two world wars and places us into the Latvia. It is remarkable that at that time the Belarusian cultural life existed in this country despite the total difference between the free and the slave worlds. It was possible thanks to many real and sincere Belarusians such as K. Ezavitau, S. Sacharau, and others, who could support the Belarusian soul abroad. Imagine, in 20-40th of the last century you may visit performances of Belarusians artists in Latvia, celebrate the important events including those inspired by our famous national leaders and poets, J. Kupala and J. Kolas. The article is ammended by photos from the author archive.

**Пётра Мурзёнак: Яшчэ жыве беларуская вёска. Пра кнігі Язэпа Квача**

Вясной 2016 года атрымаў прыемную нечаканку – ліст з Жукоўшчыны ад сп. Язэпа Квача. Жукоўшчына – гэта вёска зусім блізкая ад Сямёнавіч, ад вёскі ў якой стаіць да гэтага часу хата майго прадзеда і ў якой летнім сезонам жыве мая цёця, Тамара Мурзёнак. Так атрымалася, што сп. Квач апякуецца старымі людзьмі, якія яшчэ засталіся ў паступова знікаючых вёсках Падзісеньня. Як піша сп. Квач у сваім пісьме “па Пастаўскі бок ракі ад Васілін да Полава - ніводнай жывой душы”.

Вось праз цёцю Тамару мы і пазнаёміліся са сп. Квачом – інжынерам, настаўнікам, сацыяльным работнікам, бацькам траіх дзяцей і шчырым беларусам. Пішу шчырым, бо гэта адчуваньне узнікла з яго пісем, і яно яшчэ больш узмацнілася, калі даведаўся гэтай восеньню, што сп. Язэп Квач піша кнігі. Яго кнігі пра малую радзіму, малую, але любімую частку нашай цудоўнай і прыгожай Беларусі.

Той хто жыў у вёсцы добра ведае, што напісаць тры, хаця б і невялікія па размеру кнігі за апошнія два гады, гэта сапраўдны грамадзянскі подзьвіг. Хатнія клопаты, праца, ды колькі яшчэ розных спраў перарабляюць людзі, што жывуць у вёсцы. 12 лістапада 2017 года атрымаў ад сп. Квача ліст, дзе ён піша “Выбачаюся, што так доўга не адказваў. Не паверыце, але ад вясны амаль не падыходзіў да кампутара”.

Усе тры кнігі align рознага жанру – гэта і прыпеўкі, сабраныя ў навакольных вёсках, гэта і ўспаміны са свайго дзяцінства і жывапіс аб людзях, якія яго акружаюць, і нарэшце, гэта яго вершы – і зноў жа гэта вершы аб сваіх блізкіх, родных і добра знаёмых вяскоўцах.

Цікава, што аўтар у кнізе “Падзісненскія прыпеўкі” разам з тэкстам прыпевак падае зьвесткі аб іх выканаўцах, а іх 22 чалавекі – гэта і адрас, і адукацыя, прафесія, нацыянальнасьць, і інфармацыя ад каго выканаўцы пераняли гэтыя прыпеўкі. З 22 выканаўцаў - 21 беларус\ка і 1 паляк.

Хачу тут прывесьці адзін прыклад, прыпеўкі Антаніны Брэскай (1920 г.н.) з Алашак. Выбар паў на яе, бо вельмі ўжо знаёмае прозьвішча і магчыма далёкая радня. Цёця Поля, родная сястра майго дзеда Сільвестра Мурзёнка, была замужам за Брэскім з Алашак і там пражыла ўсё жыцьцё. Прыпеўка падаецца так, як запісана ў кнізе сп. Я. Квача.

**Антаніна Брэская**

Ой, відаць, ой, відаць,

Як Алашкі ідуць гуляць.

Усе белыя румяныя

Усім вам панараўныя!

Люблю Колю, люблю Ваню

Люблю іх я абаіх.

Люблю Колю за гармошку,

А Валодзя мой жаніх!

Музыканціка любіла

Ды ня выйшла за яго.

Ні хваціла капіталу

У папашы маяго!

Цераз рэчку быструю

Я масточык выстраю.

Хадзі мілы, хадзі мой,

Хадзі летам і зімой!

Я із міленькім стаяла

Сярод беленькіх бяроз.

Абніла пацалавала

Давіла яго да слёз!

Я на ганачку стаяла

Слёзы коцюцца

Усе дзеўкі ідуць замуж

І мне хочыцца!

Я рассыпала гарошык

Па гарошынцы.

Вот пайшлі ўжо плясаць

Мае ножанькі!

Міша мой, Міша мой,

А я Мішава.

Міша кофтачку купіў,

А я вышыла!

Скачуць хлопцы і дзіўчаты,

Кажды хочыць што бы свята.

А пасага ні мала –

Дзве каровы, тры вала!

Мне чужых пасаг не трэба –

Ёсць у мяне кусок хлеба.

А да хлеба кусок сала,

Каб душа мая плісала!

Прыпеўкі, вусная творчасьць народа, якая перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне, утварае своеасаблівы мясцовы каларыт, што ўліваецца ў такое ёмкае паняцьце як беларуская ідэнтычнасьць. Можна быць крытычным, што беларуская мова ў прыпеўках не дасканалая, і што некаторыя прыпеўкі ўтрымліваюць куплеты і па-беларуску, і па-руску, але так ёсьць як ёсьць. Гэта ўсё наша роднае, у частушках чуецца адкрытая беларуская душа. І дзякуй сп. Квачу за яго запісы.

У тым жа 2016 годзе выданы і зборнік вершаў “Я вас люблю”, які выйшаў пад псеўдамінам Язэп Братка. Шчырыя вершы напісаны ў асноўным на мясцовым матэрыяле, пра родных і любімых блізкіх, пра людзей, якія акружаюць аўтара, ці жылі ў гэтай мясцовасьці калісьці, напрыклад, пра Язэпа Драздовіча.

Вельмі цікавай для мяне падалася кніга “Квачы Квачамі”. У ёй шмат успамінаў з дзяцінства і юнацтва, расказы пра сваіх сяброў. У кнізе ёсць цікавыя раздзелы, такія як “Роды і мянушкі”, апісаньне вясельля, Купальля, вясковых танцаў, сялянскага быту. Асобнай часткай ідуць “Персаналіі”, якая прысьвечана канкрэтным асобам з мінулага, у прыватнасьці з міжваеннага часу, часу рэпрэсій і перасьледу. З асобнай любоўю аўтар піша пра сваіх родных, з сямейства Квачоў. У кнізе зьмешчаны і верш-прысвячэньне сямейству Квачоў.

**Квачам**

Хай кажуць, што ўсяк кулік балота сваё хваліць,

Я згодзен, з тым спрачацца не хачу.

Але, як не хваліць, што маці з малаком сваім нам далі,

Я пра свае Квачы сказаць хачу.

Пра вёску, дзе ўзрастаў ты чалавекам,

Дзе зведваў свет і страты пачуццё,

Пра дух змагарны нашае грамады,

Пра тую, што нас вывела ў жыццё.

Для нас “што Квач?” – зусім то не абраза,

Між прозвішчаў другіх – ярчэйшы след.

Яно для нас нароўні слоў высокіх.

Такіх, як бы Радзіма, маці, хлеб.

Каб заслужыць пахвал “Квачы Квачамі,”

З нас кожны пяўся ва ўсім лепшым стаць:

У рабоце, у вучобе, між людзямі,

І мы імкнуліся дэвіз свой апраўдаць.

Браты, сябры, знаёмыя, суседзі,

Прабачце, што вас мусіў пакідаць.

Такіх надзейных, дружных, шчырых,

Гатовых у бядзе мне спачуваць.

І сёння я даю наказ грунтоўны

Квачоўскім самавітым “уцекачам”:

Удзячны будзьце вы зямлі, што ўзгадавала,

У свеце між людзей нясіце славу вы Квачам!

*Пачата 2 студзеня 2016 г.*

*Закончана 11 лютага 2016 г*

Трэба адзначыць, што ўсе тры кнігі сп. Я. Квача, апублікаваны пры падтрымцы Глыбоцкай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Гэта вельмі добры знак, што ў беларускай глубінцы яшчэ ёсьць людзі, якія гаворань і думаюць па-беларуску, і гэтым самым пакідаюць надзею, што беларускасьць будзе існаваць не толькі на вёсцы, а і ва ўсім беларускім краю.

Часопіс “Культура. Нацыя” падае ў гэтым нумары прадмовы Язэпа Квача да трох яго кніг, а таксама зьмяшчае тэксты саміх кніг на сайце www.sakavik.net у раздзеле «Літаратура».

**Язэп Квач: Падзісненскія прыпеўкі**

Квач Я. – Падзісненскія прыпеўкі. – Глыбокае–Паставы, 2016. – 64 с.

*У зборніку апрацавана больш шасцісот прыпевак, сабраных аўтарам на тэрыторыі Шаркоўшчынскага, Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў. Мясцовыя і запазычаныя, даўнейшыя і сучасныя – усе яны з’яўляюцца неад’емнай часткай песеннай творчасці насельнікаў нашага краю, жывучых на мілай сэрцы Дзісенцы і яе прытоках.*

Кампутарны набор Язэп Квач

Вёрстка і дызайн Зміцер Лупач

Карэктарская праца Анастасія Квач

Дызайн вокладкі Леанід Юрык

Адказны за выпуск Міхал Гіль

Наклад – 50 асобнікаў

Прыпеўкі, як і іншы фальклор, адносяцца да вуснай народнай творчасці. З пакалення ў пакаленне, яны перадаюцца, змяняюцца, губляюцца, уваскрасаюць ізноў у новай форме. А ствараюць іх сапраўдныя майстры, таленты, самародкі. Часам, а мо і часцей – гэта зусім не літаратары, а людзі зусім далёкія ад прыгожага пісьменства. Але яны маюць дар заўважыць у нейкай з’яве ці асобе нешта надзвычай важнае, смешнае і дасціпна выкласці гэта ў чатырохрадкоўі.

Тэматыка прыпевак вельмі шырокая. Найбольш, канечне, пра каханне, пра музыканта, пра дзеда з бабай, ну і, вядома ж, пра цешчу з зяцем. Ёсць прыпеўкі пасрэдныя. А ёсць такія перліны, што бяруць, як кажуць, за жывое. Яны ствараюць такі яркі вобраз за кошт незвычайных параўнанняў, пераўвасабленняў, умела выкарыстоўваючы жывое вобразнае слова. Змяняецца жыццё, пад яго змяняюцца і прыпеўкі, нязменным застаецца іх уздзеянне на слухача.

На жаль, цяпер мы не часта можам пачуць іх, што называецца, у натуры, а толькі на нейкіх канцэртах ці дзе яшчэ… А самае ж цікавае раней гучала на гулянках:

вяселлях, хрэсьбінах, вечарынах, на моладзевых гульнях. Найярчэйшыя выступленні атрымоўваліся часам экспромтам. Нейкая маладзіца пачынала спяваць, да яе далучаліся іншыя, а яшчэ лепш пад хмяльком. І тады ужо не было канца, спявалі наперабой, стараючыся ўзяць верх над сваёй саперніцай па спевах. Далучаліся і мужчыны. Ішла такая, як бы перапалка з жонкай, з цешчай, з музыкантам. Тут часам праскоквалі і “тлуставатыя” і нават “тлустыя” прыпеўкі. На фоне ўсеагульнага прыўзнятага настрою і вяселля выступоўцам гэта даравалася.

Не здзіўляйцеся, што некаторыя прыпеўкі запісаны на руска-беларускай мове, з арфаграфічнымі памылкамі – усё гэта зроблена для прыбліжэння іх да арыгінальнага гучання. Пры знаёмстве з матэрыялам некаторыя з вас змогуць адчуць і адрозніць нашы аўтэнтычныя прыпеўкі і, так бы мовіць, запазычаныя, якія з’явіліся, калі мы жылі ў Саюзе. Прыпеўкі прывозіліся з камандзіровак, з арміі, з вярбовак, што закідвалі нашых людзей у самыя аддаленыя куткі. Але самае дасціпнае і цэннае прыжывалася на нашай зямлі, таму мае права на існаванне ўсё, што палюбілася людзям і передаецца ў пакаленнях.

Ёсць і ў наш час нястомныя рупліўцы, што ствараюць прыпеўкі. Адна з іх Ірына Мікалаеўна Лаўрыновіч з Шаркоўшчыны. Яшчэ Ірына і па-мастацку іх выконвае на сваіх канцэртах. Асаблівую ўдзячнасць хочацца выказаць Ніне Іванаўне Брэскай 1927 г.н. і Нюшы Брэскай 1920 г.н., Ірыне Агур’янаўне Мядзюха 1934 г.н., Галіне Паўлаўне Камінскай (Лешчык) з Пастаў за мясцовыя прыпеўкі, а таксама Васілісе Канстанцінаўне Касарэўскай, што захавала прыпеўкі ад маці. Дзякую усім, хто адгукнуўся і спрычыніўся да гэтай справы. У канцы зборніка вы зможаце знайсці больш падрабязныя даныя пра інфарматараў (тых ад каго прыпеўкі запісаны). Маю надзею, што пазнаёміўшыся са зборнікам, чытачы выкажуць жаданне даслаць мне свае прыпеўкі. Я ведаю, што іх на Падзісненшчыне безліч. І давайце ж разам адшукаем іх і захаваем для будучых пакаленняў!

З павагай іх чакае Язэп Квач

**Язэп Братка: Я вас люблю**

Братка Я. – Я вас люблю. – Глыбокае, 2016. – 56 с

*Гэта кніга – першы зборнік вершаў Язэпа Квача, які выходзіць пад псеўданімам Язэп Братка. У ім шмат вершаў, прысвечаных родным і знаёмым людзям. Гэта вершы не толькі пра асоб і рэчы надзённыя, у іх таксама і стаўленне аўтара да роднай мовы, культуры, занядбанасці нашага матэрыяльнага і духоўнага жыцця.*

Вёрстка і дызайн - Зміцер Лупач

Карэктарская праца - Зміцер Лупач

Дызайн вокладкі - Леанід Юрык

Наклад – 50 асобнікаў

Ад аўтара “Я вас люблю” – першая спроба пяра ўжо не зусім маладога аўтара Язэпа Квача. Выходзіць пад псеўданімам Язэп Братка. Чаму такі псеўданім? Услухайцеся ў гэта слова-зварот. У ім і павага да субяседніка, і сціпласць, і братэрская прыязнь, і разам з тым родная цеплыня глыбоцкага прывітання- звароту. Менавіта за ўжыванне такога звароту, яшчэ у студэнцкія гады, сябры-аднагрупнікі і далі мне такую, як я лічу, прыстойную, адпаведную і прыгожую мянушку. І вось з іх лёгкай рукі яна замацавалася не толькі за аўтарам гэтых радкоў, але яна і аснова майго электроннага адраса, Jazep_bratka @ mail.ru. Ну а чаму, менавіта, Язэп, а не Юзаф, як хацела б зваць мяне мама, або Іосіф, як афіцыйна ў пашпарце – дадумайце самі.

У гэтым зборніку – усё, што напісана амаль што за дзесяць год. Тут шмат вершаў, прысвечаных маім родным і блізказнаёмым, таму не кожны чытач зможа іх правільна зразумець і ўспрыняць. Але тут не толькі вершы-прысвячэнні блізкім і дарагім людзям і не толькі людзям, а ўсяму таму, што я люблю, што з’яўляецца неад’емнай часткай майго жыцця і маёй душы. Гэта вершы не толькі пра асоб і рэчы надзённыя, у іх таксама і маё стаўленне да роднай мовы, культуры, занядбанасці нашага матэрыяльнага і духоўнага жыцця. Праз любоў да вас хочацца зрабіць наш свет, гэта жыццё больш дасканалымі і вартымі запаведзі “любіць бліжняга свайго…”. Буду рад, калі гэты зборнік закране фібры вашай душы і вы па-іншаму глянеце на гэты свет, гэта жыццё і будзеце шукаць сваё высокае ў ім прызванне.

**Язэп Квач: Квачы Квачамі**

Квач Я. – Квачы Квачамі.– Жукоўшчына, 2017 г. –104 с

*Аўтар распавядае пра сваю родную вёску Квачы, што на Глыбоччыне, у якой ён нарадзіўся і правёў першыя сямнаццаць гадоў свайго жыцця. У кнізе распавядаецца пра жыццё вяскоўцаў, іх быт, пра дзіцячыя забавы, цікавых людзей. Прачытаць гэты твор будзе карысна ўсім, хто цікавіцца краязнаўствам, беларускай гісторыяй, культурай, традыцыямі, адным словам, усім БЕЛАРУСАМ.*

Глыбоцкая раённая арганізацыя ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны”

Падрыхтоўка да друку Зміцер Лупач

На першай старонцы змешчаны малюнак Язэпа Драздовіча “Пунькі”

Наклад 50 асобнікаў

Гэту сваю кнігу прысвячаю Роднай Зямлі, што ўзгадавала, усім землякам - квачоўцам, тым, што жывуць у роднай вёсцы і тым, што адышлі навечна. Тое, што ўвабраў у дзяцінстве з малаком маці, чым і побач з кім жыў, назаўсёды застаецца ў памяці. Ад нараджэння да заканчэння школы – усяго нейкіх сямнаццаць гадоў, але яны найлепшыя, самыя незабыўныя і хвалюючыя. Дома ты пазнаеш і адкрываеш свет, людзей і сябе між імі, выходзіш за парог бацькоўскай хаты ў нязведаны, не заўсёды прыветны да цябе свет, дзе ты сам ужо мусіш прабіваць сабе дарогу, бясконца шукаць сваё прызванне, рабіць выбар паміж дабром і злом, каб напрыканцы ізноў вярнуцца да родных вытокаў і навекі паяднацца з усім родным. Толькі не будзе ўжо ў гэтым паяднанні зямных турбот і клопатаў, а толькі вечныя цішыня і спакой.

Я прадставіў Квачы сваім бачаннем падзей і людзей, што тут жылі і жывуць зараз. Калі, можа, у каго закрадзецца на мяне крыўда, то наперад прашу прабачэння. Калі што і ёсць, то гэта не злая насмешка, а сяброўскі гумар ці жарт. Я хачу, каб праз гэту кнігу Квачы адчулі духоўную еднасць паміж сабой. Усе мы розныя, але наша адзінства дае незвычайны феномен, што завецца Квачы. Беражыце сябе, мае родныя! Толькі разам, мы – Квачы, мы – вялікая сіла!

**Piotra Murzionak: Still living the Belarusian village.** ***Comments on the books of Jazep Kwach***
***(Abstract, magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.51-60)***

My comments are about my compatriot and a very sincere person as this feeling, sincerity, came from his letters, and it is even more intensified when I learned from Mr. Jazep Kwach’ books recently published. Those books are: “Prydzisnenskia prypeuki” (*folklor songs*), “I love you” (*poems*), and “Kwachy Kwachamy” (*memoires*). His books are about the small homeland, a small, but our favorite part of the lovely and beautiful Belarus. It should be noted that all three books by Yazep Kwach were published with the support of Glybokaie organization of the Belarusian Language Society (TBM). This is a very good sign that the Belarusian grassroutes are still there that there are people who speak and think in Belarusian, and thereby give up hope that the Belarusian character will exist not only in rural areas but also in all Belarusian region.

*Пісьмо да сяброў Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе*

**Паважаныя сябры БІНІМа імя Францішка Скарыны!**

**Першы чым прадставіць сваё бачаньне дзейнасьці Інстытута на бліжэйшы час, хачу павіншаваць Вас і Вашы сем’і з надыходзячымі навагоднімі сьвятамі і пажадаць Вам шчасьця, здароў’я і творчых посьпехаў!**

**Важныя падзеі ў 2017 годзе**

2017-ты год для Інстытута быў насычаны значнымі падзеямі. Сярод іх трэба адзначыць значнае пашырэньне кола сяброў Інстытута, якое стала мажлівым дзякуючы стараньням старшыні БІНІМ, праф. З. Гімпелевіч і сакратара БІНІМ сп. Н. Колас. Цяпер у нашых радах налічваецца 28 сяброў.

Другой важнай падзеяй было сьвяткаваньне 50-годдзя БІНІМа, якое было праведзена адначасна з Агульным сходам Інстытута ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры 2 верасьня 2017 года ў Таронта. Падчас юбілейнай сесііі, а таксама на 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (верасень 2016), старшыня БІНІМа, праф. З. Гімпелевіч зрабіла вельмі падрабязны аналіз перыядаў развіцьця і дзейнасьці БІНІМа за 50 год. Матэрыялы аб дзейнасьці БІНІМа былі зьмешчаны на абноўленым сайце Інстытута www.binim.org, а таксама апублікаваны ў часопісе “Культура. Нацыя”, №15, верасень 2016 года. Падчас юбілейнай сесіі былі праведзены выбары Управы БІНІМа на наступны 3-гадовы перыяд, дапрацаваны Статут Інстытута, які на англійскай і беларускай мове зьмешчаны цяпер на сайце Інстытута. Хацеў бы з вамі абмеркаваць неабходнасьць падрыхтоўкі Статута на беларускай лацініцы, што адпавядае, як статусу Інстытута, так і пакідае перспектыву выкарыстаньня “лацінкі” на будучыню.

Вельмі цікавай падзеяй стаў удзел сяброў Інстытута ў працы Канадыйскага кангрэса гуманітарных і сацыяльных даследаваньняў, які праходзіў з 27 па 29 мая гэтага года у Райерсон універсітэце (Таронта). Адметным было тое, што сябры Інстытута, дзякуючы намаганьням і арганізатарскім здольнасьцям праф. З. Гімпелевіч, працавалі ў двух беларускіх секцыях і дадаткова правялі паэтычную сесію за круглым сталом. Інфармацыя аб удзеле сяброў Інстытута ў Кангрэсе і матэрыялы зробленых дакладаў апублікаваны ў часопісе “Культура. Нацыя”, №18, чэрвень 2017 года.

**Структура БІНІМ**

Інстытут мае Управу, 4 функцыянальныя групы, і вэб-сайт.

Ва Управу БІНІМа ўваходзяць 7 чалавек: Пётра Мурзёнак (старшыня Інстытута), Зіна Гімпелевіч (намесьнік), Наталья Колас (сакратар), Валянціна Шаўчэнка (скарбнік), Віялета Кавалёва, Івонка Сурвіла, Юрась Шамецька – старшыні функцыянальных груп.

У склад функцыянальных груп уваходзяць (падзел сяброў па групах умоўны, некаторыя сябры могуць быць у некалькіх групах):
акадэмічная група – Зіна Гімпелевіч (старшыня), Наталія Баркар, Вольга Ісакава, Наталія Колас, Ірына Лысенка, Пётра Мурзёнак, Юрка Рапецкі, Івонка Сурвіла, Паўліна Сурвіла, Ірына Тоўсьцік, Галіна Туміловіч, Ягор Фядзюшын,
група пісьменнікаў і паэтаў – Юрась Шамецька (старшыня), Вольга Іпатава, Руслан Качаткоў, Віялета Кавалёва, Пётра Мурзёнак, Ніка Панізьнік, Сяргей Панізьнік,
група класічнай музыкі і фальклёрнага мастацтва – Віялета Кавалёва (старшыня), Руслан Качаткоў, Галіна Рэзаіпур, Міхась Рыкаў, Ўлада Шамецька, Валянціна Шаўчэнка, Вольга Яноўская,
група выяўленчага мастацтва і рамесьніцкага майстэрства – Івонка Сурвіла (старшыня), Ірына Варабей, Антон Варабей, Алесь Каралькевіч, Пётр Шварцман, Юрась Шаўчэнка.

Вэб-сайт БІНІМа, www.binim.org – адміністратар і дызайнер, Алесь Каралькевіч.

**Дабрачыннасьць і ахвярнасьць – аснова дзейнасьці Інстытута**

Хачу заасяродзіць вашу ўвагу на словах “дабрачыннасьць, ахвярнасьць, энтузіязм”, бо яны з’яўляюцца асновай дзейнасьці Інстытута. Нягледзячы на акадэмічнасьць, якая ўтрымліваецца ў назве Інстытута, і на фармат яго арганізацыі (управа, функцыянальныя групы), БІНІМ ёсьць арганізацыяй валанцёрскай, грамадскай, сутнасьць якой заключаецца ў праяўленьні той актыўнасьці, беларускасьці і пачуцьцяў, якія жывуць у кожным з нас, у адносінах да беларускай культуры і роднай Беларусі.

Мы яднаемся пад шыльдай БІНІМа з тым, каб адчуваць сваіх аднадумцаў, дапамагаць адзін аднаму, і наколькі магчыма прадстаўляць беларускасьць як у Канадзе, так і за яе межамі.

Відавочна, што валанцёрская праца ў такім інстытуце мае свае абмежаваньні, і не толькі фінансавыя. Адарванасьць ад каранёў, недастатковыя сувязі з радзімай у значнай ступені ўплываюць на наш патэнцыял. Умоўным абмежаваньнем з’яўляецца таксама тое, што многія з нас уваходзяць у склад іншых структур і арганізацый. На мой погляд, усьведамляючы такую умоўную абмежаванасьць, мы ты не менш, можам складаць адно цэлае, калі будзем імкнуцца да выкананьня мэтаў, пастаўленых у Статуце БІНІМа. У такім разе не павінна гучаць падтэкстам, што дзейнасьць Інстытута адлюстроўваецца ў простай суме актыўнасьцяў, якія кожны з нас праяўляе на сваім месцы. Напрамую кажучы, Інстытут не павінен уяўляць нейкую “інвентарную карзіну”.

Мяркую, што адчуваньне таго, што побач працуюць творчыя, ахвярныя людзі, мусіць множыць нашы сілы. Працуючы разам, супрацоўнічаючы індывідуальна і групамі, мы можам асягнуць значна больш у рамках Інстытута. Падаецца, што мы мусім быць удзячны адзін аднаму за падтрымку ў памкненьні тварыць у сферы беларускай культуры і навукі, тут, за мяжой, у Канадзе. Не для самарэкламы, прапаную стварыць на нашым вэб-сайце галерэю сяброў Інстытута (з іх згоды), са здымкамі і кароткай інфармацыяй пра найбольш важныя творчыя посьпехі і планы.

**Грашовыя сродкі**

Якой бы ні была ахвярнасьць, але кожная арганізацыя такога тыпу як наша, мусіла б мець грашовыя сродкі на рэалізацыю тых ці іншых праектаў. Мінімум, што можна рабіць – гэта зьбіраць індывідуальныя сяброўскія складкі. На апошнім агульным сходзе БІНІМ у верасьні 2017 года памер складак быў вызначаны ў суме 30 даляраў. Паводле Статута гадавыя складкі неабходна здаваць да першага кастрычніка кожнага года або на просьбу скарбніка. Думаю наш скарбнік, сп. В. Шаўчэнка, пагадзіцца з наступнай маёй прапановай – паколькі інстытуцкі скарб толькі пачынае складывацца, то ёсць просьба да сяброў здаць складкі за 2018 год па-магчымасьці раней, у студзені-лютым, а таксама закрыць запазычанасць за 2017 год тым сябрам, якія яшчэ гэтага не зрабілі. Такім чынам, калі мы зберам складкі разам за два гады ў бліжэйшы час, то ў нас з’явяцца грошы на аператыўныя траты.

Аднак, мы добра ведаем, што сяброўскіх складак можа быць недастакова, калі праект будзе сур’ёзным. Традыцыйна ўсе ведаюць, што грошы можна атрымаць ад

спонсараў, мецэнатаў, у правінцыяльных і федэральных структурах. Не адкрыю “амерыку” – нам трэба гэтым займацца.

Сябрам Інстытута трэба шукаць грошы таксама, і ў першую чаргу, у правінцыйных і федэральных фондах. У якасьці прыклада прывяду падтрымку, якую атрымліваў беларускі суботні клас у Аттаве ў 2004-2009 г.г. ад Аттаўскага савета каталіцкіх школ. Для правядзеньня ўрокаў прадстаўлялася памяшканьне ў адной са школ горада, з 9.00 да 11.30. Да таго ж, аднаму настаўніку плацілі пачасова заработную плату, каля 15 даляраў за гадзіну.

Думаючы пра адукацыйныя праграмы для дзяцей (нядзельны клас) і дарослых (“Мова – нанова”) у Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры ў Таронта, правёў прасьцейшы пошук. Магчыма гэта было ўжо зроблена і нашымі сябрамі ў Таронта, тым не менш, хачу падзяліцца вынікамі такога пошука:

Так, напрыклад, Toronto Catholic District School Board https://www/tcdsb.org/program , падтрымлівае адукацыйныя класы для дзяцей 20 нацыянальнасьцяў. Звяртацца да Carla Cerelli: тэл. 416-22208282x2495, е-мэйл carla.cerelli@tcdsb.org

Другая арганізацыя, Toronto District School Board, www.dtsb.on.ca тэл.416-397-3000, падтрымлівае 50 адукацыйных класаў для дарослых.

Абедзьве аргнанізацыі належаць да Міністрэства адукацыі правінцыі Антарыё.

Ведаю прыклад, калі наш сябра ў Аттаве атрымаў грант на напісаньне кнігі ў памеры 10.000 даляраў. Пошук для пішучых людзей можна рабіць на такіх сайтах: www.grants.ca www.canadacouncil.ca/funding https://allontario.ca/writing

Пішу не для таго каб агітаваць, а каб падзяліцца сваімі пакуль небагатымі ведамі ў гэтай галіне і зацікавіць вас. Разумею, што дабываньне грантаў не такі просты працэс, патрабуе часу, цярпеньня і веданьня падыходаў. Аднак, рабіць гэта трэба. Добра было б падумаць пра стварэньне Фонда БІНІМа.

Хацелася б, каб сябры Інстытута падзяліліся сваім досьведам у дабываньні канадыйскіх грантаў, і ў першую чаргу не акадэмічных, а агульнадаступных для публікі.

**Папулярызацыя БІНІМа**

Сярод важных задач для сяброў БІНІМа ёсьць папулярызацыя дзейнасьці нашага Інстытута. Адным з добрых падыходаў ёсць выкарыстаньне “лого” і імя БІНІМа. Вялікая просьба да ўсіх сяброў БІНІМа - выкарыстоўвайце, калі ласка, калі гэта адпавядае сітуацыі, як “лого” Інстытута, так і яго імя на мерапрымствах, якія вы праводзіце – канцэрты, прэзентацыі, лекцыі, і г.д.

Папулярызацыі Інстытута можа спрыяць і карыстаньне бізнэс-картамі з выявай “лого” Інстытута, фарматы якіх маецца прыгатаваць сп. В. Шаўчэнка для кожнага з сяброў Інстытута.

І нарэшце, будзем спадзявацца, на ўдзел усіх сяброў Інстытута ў працы нашага адноўленага вэб-сайта, які значна зьмяніўся дзякуючы намаганьням і прафесіянальным навыкам сп. А. Каралькевіча. Для таго каб сайт выглядаў усё лепей і лепей яго трэба папаўняць новымі цікавымі матэрыяламі, якія тычацца як дзейнасьці сяброў і груп Інстытута, так і запазычаных з іншых сайтаў. Саша Караткевіч падрыхтаваў матэрыял-інструкцыю, як карыстацца сайтам, і як падаваць на яго інфармацыю. Матэрыялы, якія адлюстроўваюць актыўнасьць самаго Інстытута будуць паступова папаўняць архіў БІНІМа.

**Прапануемыя практычныя дзеяньні на бліжэйшы час:**

- сабраць сяброўскія складкі за 2017 і па магчымасьці за 2018 год,
- падрыхтаваць Статут БІНІМ на беларускай лацініцы (першая палова 2018 года),
- стварыць на нашым вэб-сайце галерэю сяброў Інстытута (з іх згоды), са здымкамі і кароткай інфармацыяй пра найбольш важныя творчыя посьпехі і планы (першая палова 2018 года).

Вось так, калі коратка, аб маіх першых думках адносна бліжэйшай перспектывы БІНІМа. Я не мог закрануць планы кожнага з сяброў БІНІМа, аднак, думаю, што пра сваю актыўнасьць вы з ахвотай будзеце дзяліцца на вэб-сайце Інстытута (100-годдзе БНР, канцэрты, фестывалі, выставы, прэзентацыі, акадэмічныя канферэнцыі).

З павагай,

Пётра Мурзёнак, старшыня БІНІМа ў Канадзе

*10 сьнежня 2017 года, Аттава*

**Letter by Piotra Murzionak, the President of the Belarusian Institute of Arts and Sciences in Canada (BINIM), to the members of the Institute**
***(Abstract, magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.61-66)***

**Dear friends of BINIM!**

**First than to present my vision of the Institute' activities in the near future, I want to congratulate you and your families with the upcoming New Year holidays and wish you happiness, health and success!**

In 2017, the Institute was filled with significant events. It included a significant expansion of the circle of friends of the Institute, now we have 28 members, the celebration of the 50th anniversary of BINIM, which was held concurrently with the General meeting of the Institute (September 2, 2017, Toronto), and our participation in the work of the Canadian Congress of Humanities and Social Studies (May 27-29, 2017, Ryerson University, Toronto).

Saying about the most important things in the Insitute’ life I would like to concentrate your attention to the words "charity, sacrifice, and enthusiasm" as they are the foundation of the Institute. I believe that the feeling of being close working with creative, and sacrifieced people must multiply our internal forces. Working together, individually and in groups, we can embrace much more within the Institute. It seems that we should be grateful to each other for support in an effort to create and support the Belarusian culture and science here in Canada, far from our homeland. Regarding our financial resources, however, we know that the membership dues may not be enough, if the project to be supported is serious. Traditionally, everyone knows that money can be obtained from sponsors, patrons, provincial and federal agencies. I will not discover “america” - we need to do it as well.

The proposed action in the near future are: to collect membership fees for 2017 and possibly for 2018, to prepare BINIM Charter in the Belarusian Latin alphabet (first half of 2018), to create a gallery of members of the Institute (with their consent) with pictures and brief information about the most important creative achievements and plans on our website (first half 2018), to popularize our Institute activities.

That are, briefly, my first thoughts about the immediate prospects of BINIM. I could not relate to the plans of each of the BINIM member, however, I think, you will willingly share about all your activities on the web site of the Institute (the 100th anniversary of the BNR, concerts, festivals, exhibitions, presentations, academic conferences).

*Статыстыка*

**Пётра Мурзёнак: Новыя зьвесткі аб міграцыі беларусаў у Канаду паводле перапісу насельніцтва ў 2016 годзе**

*У артыкуле паказана дынаміка зьменаў колькасьці беларусаў у Канадзе ў 1981-2016 г.г. Пры падрыхтоўцы матэрыялаў выкарыстаны зьвесткі перапісаў насельніцтва Канады (1981, 1986, 1991, 1996, 2001, 2006, 2011, і 2016 г.г.).*

Гэты артыкул з’яўляецца своеасаблівым працягам аналізу міграцыі беларусаў у Канаду, які быў зроблены па выніках папярэдніх перапісаў насельніцтва ў Канадзе (1981-2011) і апублікаваны ў 6-м нумары часопіса “Культура. Нацыя” (на той час першыя шэсьць нумароў часопіса выйшлі пад назвай “Сакавік”).

У 2016 годзе, у Канадзе налічылі 20,710 чалавек, якія пры адказе аб сваім этнічным паходжаньні засьведчылі, што яны ёсьць беларусамі (адказы маглі быць як адназначнымі, так і ўключаць некалькі адказаў пра этнічнасьць) (Табліца 1). З гэтай колькасьці, большая частка, 11,690 чалавек або 56%, пасяліліся ў правінцыі Антарыё, значная частка ў правінцыях Квебек, Брытанская Калумбія і Альберта. Разам ва ўказаных правінцыях жыве 19,185 чалавек або 93% ад агульнай колькасьці беларусаў у Канадзе. Відаць, што беларусы селяцца ў асноўным у гарадах - толькі ў Таронта, Аттаве, Мантрэалі, Ванкуверы, Эдмантане і Калгары жыве 15,105 беларусаў. Для даведкі: у 2011 годзе ў Канадзе 81% насельніцтва жыло ў гарадах і 19% у сельскай мясцовасьці.

Трэба адзначыць, што прырост колькасьці беларусаў у Канадзе за апошнія 15 год быў адносна стабільным. За перыяд з 2001 па 2016 г.г. за кожныя пяць гадоў у Канадзе прыбаўлялася па 5 тысяч з нечым беларусаў (па тысячы на год).

**Табліца 1. Колькасьць беларусаў у Канадзе, правінцыях і некаторых гарадах у 2016 годзе (адзіны адказ і некалькі адказаў пра этнічнае паходжаньне)**

| Канада, правінцыя, горад | Этнічнае паходжаньне | | |
|---|---|---|---|
| | Усяго | Адзіны адказ | Некалькі адказаў |
| **CANADA** | 20,710 | 5,125 | 15,580 |
| **Ontario** | 11,690 | 3,140 | 8,550 |
| Toronto | 8,240 | 2,355 | 5,885 |
| Ottawa-Gatineau | 985 | 260 | 725 |
| **Quebec province** | 2,530 | 800 | 1,720 |
| Montreal | 2,180 | 650 | 1,525 |
| **British Columbia** | 2,765 | 495 | 2,270 |
| Vancouver | 1,820 | 355 | 1,465 |
| **Alberta** | 2,200 | 450 | 1,755 |
| Edmonton | 1,065 | 250 | 810 |
| Calgary | 815 | 165 | 650 |
| **Manitoba** | 885 | 155 | 730 |
| Winnipeg | 670 | 145 | 530 |
| **Saskatchevan** | 290 | 40 | 250 |
| **Nova Scotia** | 195 | 40 | 155 |
| **New Brunswick** | 85 | 0 | 80 |
| **Newfoundland and Labrador** | 30 | 0 | 25 |
| **Yukon** | 20 | 0 | 20 |
| **Prince Edward Island** | 10 | 0 | 10 |
| **North-West Territories** | 10 | 0 | 10 |
| **Nunavut** | 0 | 0 | 0 |

*“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”, №20, сьнежань 2017 ISSN 2291-4757*

У той жа час, падобны аналіз, зроблены адносна месца нараджэньня (г.зн. эмігранты ўказывалі, што яны народжаны ў Беларусі), даў даволі нечаканыя вынікі, а менавіта, што значная доля беларусаў (69%) была народжана і міґравала з па-за межаў Беларусі (г. зн. з другіх краін). Па гадах (гл. таксама Малюнак 1):

У 1991 год у Канадзе налічвалася 2,830 беларусаў,

у 2001 год – 5,110 беларусаў, + 2, 280

у 2006 год – 10,505 беларусаў, + 5,395 (2,805 нарадзіліся ў Беларусі)

у 2011 год - 15,565 беларусаў, +5,065 (2,385 нарадзіліся ў Беларусі)

у 2016 год – 20,710 беларусаў, + 5,145 (1,610 нарадзіліся ў Беларусі).

**Дыяграма 1.**



У Табліцы 2, прадстаўлены зьвесткі аб катэгорыі і тыпах заяўнікоў на міграцыю ў Канаду за перыяд з 1980 па 2016 гг. Найбольшую частку складаюць эканамічныя эмігранты (69%) і эмігранты, якіх спансавалі сем’і (20%), аднак, доля з апошняй катэгорыі відаць будзе памяншацца з-за абмежаваньняў, уведзеных урадам Канады.

**Табліца 2. Эміграцыя людзей, народжаных у Беларусі, у розныя перыяды з 1980 па 2016 гг.**

| Катэгорыя прыёма і тып заяўніка | Усяго з 1980 па 2016 г.г. | 1980 - 1990 | 1991 - 2000 | 2001 - 2010 | 2001 - 2005 | 2006 - 2010 | 2011 - 2016 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Усяго | 10,785 | 785 | 3,210 | 5,190 | 2,805 | 2,385 | 1,610 |
| Эканамічныя эмігранты | 7,395 | 250 | 2,500 | 3,700 | 1,975 | 1,730 | 940 |
| Асноўныя заяўнікі | 2,730 | 105 | 905 | 1,325 | 685 | 640 | 385 |
| Другасныя заяўнікі | 4,670 | 145 | 1,595 | 2,380 | 1,290 | 1,090 | 550 |
| Спансаваныя сем’ямі | 2,175 | 80 | 380 | 1,120 | 590 | 525 | 600 |
| Бежанцы | 1,145 | 455 | 320 | 320 | 215 | 105 | 50 |
| Іншыя эмігранты | 65 | 0 | 15 | 40 | 20 | 25 | 15 |

Мы пацьвердзілі і цяпер нашы мінулыя высновы (“Сакавік”, №6, чэрвень, 2014) аб тым, што беларусы даволі кансерватыўныя ў сваіх міграцыйных памкненьнях у параўнаньні з суседзямі (Табліца 3). Нягледзячы на адносны рост колькасьці мігрантаў-беларусаў у Канаду з 7 да 11 чалавек на 100 тыс. насельніцтва Беларусі або на 57% у сярэднім за адзін год (параўнаньне зроблена за перыяды паміж 1991-2011 і 2011-2016 г.г., адпаведна), міграцыйны патэнцыял беларусаў у параўнаньні з краінамі-суседзямі невысокі. Так, у сярэднім за адзін год за гэтыя ж перыяды міграцыя эстонцаў у Канаду павялічылася з 7 да 21 чалавека на 100 тыс. насельніцтва Эстоніі (у тры разы), Латвіі – з 17 да 32 чалавек (+88%), Украіны з 22 да 48 чалавек (у 2.2 разы, +118%), Літвы – з 28 да 68 чалавек ( у 2.4 разы, +143%), Польшчы – з 35 да 50 чалавек (у 1.4 разы, +43%).

**Табліца 3. Параўнаньне міграцыйнай актыўнасьці беларусаў з суседзямі**

| Краіна, млн (год) | Колькасць мігрантаў у Канадзе | | Прырост за 20 год | Колькасьць мігрантаў на 100 тыс. жыхароў краіны паходжаньня, за 20 год (у сярэднім за год) | Прырост за 5 год | Колькасьць мігрантаў на 100 тыс. жыхароў краіны паходжаньня, за 5 год (у сярэднім за 1 год) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1991 | 2011 | 1991-2011 | | 2011-2016 | |
| Беларусь 9.5 (2009) | 2,830 | 15,565 | 12,735 | 134 (7) | 5,145 | 54 (11) |
| Эстонія 1.3 (2011) | 21,255 | 23,185 | 1,930 | 148 (7) | 1,345 | 103 (21) |
| Украіна 45.6 (2012) | 1,054,295 | 1,252,165 | 196,870 | 432 (22) | 108,490 | 238 (48) |
| Расія 143 (2011) | 158,850 | 550,520 | 391,670 | 274 (14) | 71,925 | 50.3 (10) |
| Польшча 38.3 (2012) | 740,715 | 1,010,700 | 269,985 | 705 (35) | 95,885 | 250 (50) |
| Літва 3.0 (2011) | 32,515 | 49,135 | 16,620 | 554 (28) | 10,150 | 338 (68) |
| Латвія 2.1 (2011) | 20,445 | 27,355 | 6,910 | 329 (17) | 3,370 | 160 (32) |

Толькі з Расіі адносная міграцыя зьнізілася з 14 да 10 чалавек на 100.000 насельніцтва Расійскай Федэрацыі. Калі прыняць да ўвагі месца нараджэньня беларусаў (гл. вышэй), то іх міграцыйны патэнцыял можа быць яшчэ меншым. Мы не можам дакладна адказаць пра прычыны такой нізкай міграцыйнай здольнасьці беларусаў (любоў да сваёй зямлі, патрыятызм, сацыяльныя фактары, неінфармаванасьць), аднак, як і раней лічым, што калі казаць пра будаўніцтва нацыянальнай дзяржавы, то безумоўна, што гэта пазітыўная з’ява.

На пытаньне, якой мовай вы карыстаецеся дома (Канада, Перапіс-2016), толькі 2.8% беларусаў далі станоўчы адказ (Табліца 4, па Перапісу-2011 такіх было 3.7%). Гэтыя лічбы адпавядаюць стану ўжываньня роднай мовы ў Беларусі (Карней, 2013; Мурзёнак, 2013). Толькі крыху лепш была справа з матчынай мовай у украінцаў (5.1%), аднак, у параўнаньні з мінулым перыядам стан з ужываньнем украінскай мовы пагоршыўся (было 9.6%). Сітуацыя таксама пагоршылася з ужываньнем літоўскай мовы – 8.2% (15.5%), польскай – 14.4% (19.9%), латышскай – 11.3% (23.6%). Найбольшы працэнт сярод нашых непасрэдных суседзяў быў ў расіян (карысталіся дома рускай мовай 31.2%, было 30.9%). Відавочна, што прадстаўленыя лічбы адлюстроўваюць перш за ўсё становішча ў Канадзе, а не на радзіме; многія эмігранты прымаюць правілы жыцьця краіны-пражываньня, Канады, ассімілюючыся і нават адмаўляючыся ад сваіх вытокаў. Аднак, для беларускай мовы гэтыя лічбы, на вялікі жаль, знаходзяцца за крытычнымі для яе захаваньня межамі.

**Табліца 4. Колькасьць мігрантаў у Канадзе і карыстаньне роднай мовай дома**

| Краіна | Колькасьць мігрантаў | Колькасьць людзей, якія дома размаўляюць на роднай мове * | % |
|---|---|---|---|
| **Bulgarian** | 34,560 | 19,935 | 57.7 |
| **Romanian** | 238,050 | 94,830 | 39.8 |
| **Russian** | 622,445 | 194,310 | 31.2 |
| **Slovak** | 72,290 | 12,825 | 17.7 |
| **Czech** | 104,580 | 16,305 | 15.6 |
| **Polish** | 1,106,585 | 158,995 | 14.4 |
| **Estonian** | 24,530 | 3,345 | 13.6 |
| **Hungarian** | 348,085 | 44,150 | 12.7 |
| **Latvian** | 30,725 | 3,485 | 11.3 |
| **Lithuanian** | 59,285 | 4,890 | 8.2 |
| **Ukrainian** | 1,359,655 | 69,490 | 5.1 |
| **Belarusan** | 20,710 | 570 | 2.8 |

*Адзін або некалькі адказаў пра мову, на якой размаўляюць дома

**Заключэньне**

1. Колькасьць беларусаў у Канадзе ў 2016 г. ў параўнаньні з 2011 г. вырасла на 5,145 чалавек, з 15,565 да 20,710.
2. У 2016 годзе, 19,185 чалавек або 93% ад агульнай колькасьці беларусаў у Канадзе пражывала у 4-х правінцыях Канады: Антарыё (11,690; 56%), Брытанская Калумбія (2,765), Квебек (2,530) і Альберта (2,200). Як і ў 2011 г. 40% беларусаў пражывала ў Таронта (было 6,215, стала 8,240).
3. За перыяд з 2011 па 2016 гг. значная доля беларусаў міґравала з другіх краін (пры параўнаньні колькасьці міґрантаў з указаным месцам нараджэньня).
4. Міграцыйны патэнцыял беларусаў у параўнаньні з краінамі-суседзямі невысокі. У сярэднім за адзін год за перыяды паміж 1991-2011 і 2011-2016 г.г., адпаведна, 7 і 11 беларусаў міґравалі ў Канаду (+57%, пералік зроблены на 100 тыс. насельніцтва Беларусі). За гэтыя ж перыяды міграцыя эстонцаў у Канаду павялічылася з 7 да 21 чалавека на 100 тыс. насельніцтва Эстоніі (у тры разы), Латвіі – з 17 да 32 чалавек (+88%), Украіны з 22 да 48 чалавек (у 2.2 разы, +118%), Літвы – з 28 да 68 чалавек ( у 2.4 разы, +143%), Польшчы – з 35 да 50 чалавек (у 1.4 разы, +43%).
5. Доля беларусаў у Канадзе, якія ўжывалі родную мову дома ў 2016 г., невялікая (2.8%, Перапіс-2011 - 3.9%). Для беларускай мовы гэтыя лічбы знаходзяцца крытычнымі для яе захаваньня межамі і адлюстроўвае сітуацыю з Мовай на Радзіме. Для параўнаньня: украінцы – 5.1% (было 9.6%), літоўцы – 8.2% (15.5%), палякі – 14.4% (19.9%), латышы – 11.3% (23.6%), рускія – 31.2% (30.9%).

**Спасылкі**

1. 2016 National Household Survey: Data tables. http://www12.statcan.gc.ca/census-recensement/2016/dp-pd/index-eng.cfm
2. Пётра Мурзёнак: МІГРАЦЫЯ БЕЛАРУСАЎ У КАНАДУ Ў ПАРАЎНАНЬНІ З КРАІНАМІ-СУСЕДЗЯМІ. “САКАВІК”, №6, чэрвень, 2014, с. 30-39.
3. Карней Ігар, 2013 Паводле А. Тараса 98% насельніцтва Беларусі чытае і думае на расейскай мове. Радыё”Свабода”, 21 верасьня 2013 г.
4. Мурзёнак Пётра, 2013 Шляхі да нацыянальнай дзяржавы. III. Моўнае пытаньне. “САКАВІК”, №1, сакавік, 2013, с. 23-28.

**Piotra Murzionak: Update on migration of Belarusians to Canada (Census – 2016)**
***(magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.67-74)***

1. The number of Belarusians in Canada increased by 5,145 persons from 15.565 in 2011 to 20.710 in 2016.
2. 19.185 people or 93% of the total number of Belarusians in Canada live in four Canadian provinces in 2016: Ontario (11,690; 56%), British Columbia (2,765), Quebec (2,530) and Alberta (2,200). As in 2011, 40% of Belarusians are living in Toronto (6,215 persons, it was 8.240 persons).
3. During the period from 2011 to 2016, a significant proportion of Belarusians migrated from the second country (when comparing the number of migrants to the specified place of birth).
4. Migration potential of Belarusians in comparison with the neighboring countries is low. On average, each year in the period between 1991-2011 and 2011-2016, respectively, 7 and 11 Belarusians migrated to Canada (+ 57%, the calculation is made per 100.000 population of Belarus). During the same periods, the migration of Estonians to Canada rose from 7 to 21 per 100 thousand population of Estonia (3-fold), Latvians – from 17 to 32 (+ 88%), Ukrainians – from 22 to 48 (2.2-fold, + 118%), Lithuanians - from 28 to 68 people (2.4-fold, + 143%), Polish - from 35 to 50 (1.4-fold, +43%).
5. The proportion of Belarusians in Canada who use their native language at home is very small (2.8%, the Census-2011 - 3.9%). For the Belarusian language, these figures are critical for maintaining it, and reflect the situation with the language at home. For comparison: the percentage of Ukrainians who use their native language at home is 5.1% (was 9.6%), Lithuanians - 8.2% (15.5%), Poles - 14.4% (19.9%), Latvians - 11.3% (23.6%), Russians - 31.2% (30.9%).

*Канферэнцыі, семінары, сімпозіумы*

**Навіны ад Пётры Мурзёнка (кастрычнік-лістапад 2017)**

У кастрычніку-лістападзе 2017 года мне выпала прадстаўляць БІНІМ на трох падзеях, арганізаваных кафедрай украінскіх даследваньняў Аттаўскага універсітэта і Інстытутам Оскара Халецкага (Oskar Halecki Institute). Ніжэй падаю кароткі зьмест з гэтых падзей.

**I.**

11 кастрычніка 2017 года ў Аттаўскім універсітэце прайшла лекцыя Міколы Рабчука, вядомага украінскага інтэлектуала і публіцыста. Мікола Рабчук, прэзідэнт Украінскага ПЭН-цэнтра, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута палітычных і нацыянальных даследаваньняў (Кіеў), эксперт па праблемах мовы і ідэнтычнасьці украінцаў. Мікола Рабчук аўтар кніг па грамадскай супольнасьці, нацыянальнаму будаўніцтву, нацыяналізму, нацыянальнай ідэнтычнасьці і пост-камуністычнай трансфармацыі. Паколькі многія украінскія праблемы маюць шмат агульнага з беларускімі, то і беларуская тэматыка ўваходзіць у сферу яго даследаваньняў.

Сп. Рабчук асноўны час распавядаў пра адносіны розных катэгорый украінцаў (адрозных па ўзросту, нацыянальнай і геаграфічнай прыналежнасці) да сітуацыі з Данбасам і Крымам, да арыентацыі Расія-Еўропа, параўноўваў як гэта было 5-10 год таму назад, і што адбываецца цяпер. Акцэнт быў зроблены на этнічную і моўную прыналежнасць. Рэлігійныя пытаньні не асьвятляліся. Асноўная высновa з лекцыі была тая, што украінская ментальнасьць\сьвядомасць паступова умацоўваецца, прычым ва ўсіх рэгіёнах Украіны. Пасьля лекцыі адбылося кароткае, прыемнае знаёмства і размова са сп. М. Рабчуком.

**II.**

27-28 кастрычніка 2017 года Інстытут Оскара Халецкага (польская навуковая установа ў Канадзе) правёў 2-гі сімпозіум “Уклад канадыйцаў польскага паходжаньня ў развіцьцё Канады: да 150-годнага юбілею Канады”. На гэты

сімпозіум я атрымаў запрашэньне ад інж. Аляксандра Яблонскага, дырэктара Інстытута (A. Jablonski).

Сімпозіум быў арганізаваны Інстытутам Халецкага і адной з тэалагічных кафедр з Saint Paul University пры падтрымцы Сената Польскай Рэспублікі. Падчас сімпозіума працавала выстава, падрыхтаваная Канадыйска-польскім інстытутам гістарычных даследаваньняў. На сімпозіуме прысутнічаў пасол Польскай Рэспублікі ў Канадзе, др. A. Kurnicki, прэзідэнт Канадыйска-польскага кангрэса, W. Lizon, дэпутат муніцыпалітэта Аттавы, R. Chiarelli.

У сваёй пленарнай лекцыі др. А. Яблонскі ахарактарызаваў 5 хваляў эміграцыі палякаў у Канаду (1870-1914, 1918-1939, 1939-1956, 1956-1981, 1981-2000). Цікава, што на радзіме пражывае 38 мільёнаў палякаў, а за мяжой – 14.5 мільёнаў, з іх, у ЗША – 10.6 млн, Бразіліі – 1.8 млн, Канадзе – 1.1 млн. Лектар узгадваў знакамітых людзей, такіх як Danuta Mostwin (1921-2000), Wsevolod Jakimiuk (1902-1991). Сп. А. Яблонскі падчас лекцыі адзначыў, што Ўсевалад Якімюк меў беларускія карані, а пасьля лекцыі коратка распавёў пра тое, што У. Якімюк быў знакамітым авіаканстуктарам у Канадзе, аўтарам дзесяткаў праектаў розных лятальных апаратаў. Працаваў У. Якімюк у De Havilland Canada.

Сп. А. Яблонскі прыводзіў некаторую статыстыку, якая яго не зусім радавала, у тым сэнсе, што, напрыклад, менш 2% канадыйскіх палякаў прымаюць удзел у справах грамадскіх арганізацый, а доля палякаў, якія размаўляюць на роднай мове дома ў Канадзе зьмяншаецца. Так, калі па выніках мінулага перапісу (2011) польскую мову дома ўжывалі каля 210 тыс. чалавек, то ў 2016 г. такіх было каля 160 тыс. Калі параўноўваць з Аттаўскай суполкай беларусаў, то сітуацыя з наведваньнем беларускіх імпрэзаў крыху лепшая – з 1000 беларусаў, якія жывуць у Аттаве-Гаціно (перапіс 2016), на нашых імпрэзах бывае да 50 чалавек (каля 5%). Аднак, моўная сітуацыя ў нас не такая радасная. Новую статыстыку (перапіс 2016), што тычыцца беларусаў у Канадзе, глядзіце ў артыкуле ў гэтым нумары часопіса “Культура. Нацыя”.

**III.**

На пачатку лістапада 2017 года я атрымаў запрашэньне з кафедры украінскіх даследаваньняў Аттаўскага універсітэта (заг. кафедры, праф. Дамінік Арэль, Dominique Arel) прыняць удзел у традыцыйным, штогадавым Danyliw семінары, прысьвечаным праблемам сучаснай Украіны.

Упершыню семінар праходзіў на працягу 3 дзён (16-18 лістапада 2017 года). Мне удалося быць на паседжаньнях апошняга дня ў суботу. Гэты дзень быў цалкам аддадзены тэме “Мастацтва і палітыка”.

Дзень пачаўся з лекцыі М. Соневіцкі пра развіцьцё творчасьці украінскай поп-пявуньні Русланы. У 2004 годзе Руслана выйграла “конкурс Еўрабачаньня”. Праводзіліся паралелі паміж музыкальнай творчасьцю Русланы і яе грамадзянскай пазіцыяй. Яе творчасьць развівалася ад музыкальнага нацыяналізма, аўта-экзатызма да палітыкі суверэнітэта.

Вельмі цікавым было прадстаўленьне новай кнігі Mayhill Fowler “Beau Monde on Empire’s Edge: State and Stage in Soviet Ukraine” (University of Toronto Press, 2017). Набыў гэту кнігу з аўтарскім надпісам і працягваю яе чытаць. Аўтар выкарыстоўвае арыгінальны падыход – параўноўвае жыцьцё і творчасць пар пісьменьнікаў ці акцёраў, якія ў міжваенны час пакінулі Украіну і з’ехалі ў Маскву, з тымі, якія засталіся ў Кіеве – Остап Вішня – Ільф-Пятроў, Курбас – Міхоэльс. На гэтых і іншых прыкладах разглядаецца, як развівалася творчасць людзей “у цэнтры” і “на перыферыі”, ва ў мовах “дазволенага” і ў рэальнай нацыянальнай культуры, як вырашаліся ў такіх розных умовах пытаньні нацыянальнай ідэнтычнасці. Многае з таго аб чым піша аўтар было характэрным і для развіцьця творчасці дзеячоў беларускай культуры ў савецкія часы.

У лекцыі Анны Кутінай (Універсітэт Хельсінкі) разглядаліся пытаньні разбурэньня помнікаў камуністычнага часу ва Украіне (“Ленінапад”). Працэс разбурэнья помнікаў меў некалькі перыядаў – пачынаючы ад вандалізма да афіцыйнага выдаленьня помнікаў па рашэньню Украінскага ураду.

Ва Украіне налічвалася каля 5.500 помнікаў Леніну, якія былі як знак прысутнасьці савецкай улады, асабліва на тэрыторыі Заходняй Украіны. Пытаньні гэтыя (разбурэньня) не такія простыя. Думкі людзей на гэты конт падзяляюцца, ад “вы разбураеце сваё мінулае” да “Слава Украіне” - як пратэст супраць мінулага. Адмоўнымі момантамі з’яўляецца і тое, што разбураюцца помнікі, якія маюць архітэктурную і мастацкую каштоўнасьць, а таксама тое, што помнікі прыбіраюць, а пастаменты застаюцца як напамін, што ёсьць аб чым падумаць. Цяпер ва Украіне разбураны амаль усе помнікі Леніну і іншым камуністычным дзеячам. Як прыклад іншага падыхода, прыводзілася Літва, дзе падобныя помнікі былі перанесены ў спецыяльна створаныя паркі. Дадатковай праблемай з’яўляюцца значныя фінансавыя траты, зьвязаныя са зменай назваў савецка\камуністычных часоў (шыльды, дакументы, і г.д.). Аўтар адзначыла, што немагчыма ўвайсьці ў Еўропу з малатком.

Некалькі дакладаў былі прысьвечаны працэсу рэформ ва Украіне, у прыватнасці судовай рэформе. Як было адзначана на панэльнай дыскусіі, судовая рэформа не была пасьпяховай. У 2014 годзе была спроба значна абнавіць склад суддзяў усіх узроўняў, аднак, аказалася, што 80% суддзяў былі зноў пераабраны на свае пасады.

У апошні дзень семінара прысутнічала каля 50 чалавек – студэнты і прафесары універсітэта, прадстаўнікі украінскай дыяспары і пасольства Украіны ў Канадзе.

Др. Пётра Мурзёнак, старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе

*2 сьнежня 2017 года, Аттава*

**Brief notes from conferences by Piotra Murzionak (October-November 2017)**
***(magazine“CULTURE, NATION”, December 2017, issue 20, p.75-79)***

On October 11, 2017, the University of Ottawa hosted a lecture by Nicholas Rabchuk known Ukrainian intellectual and journalist, the President of the Ukrainian PEN Center. The main conclusion of the lecture was that Ukrainian mentality \ consciousness gradually strengthened in all regions of Ukraine.

On October 27-28, 2017, the Institute of Oscar Halecki (Polish scientific institutions in Canada) held the 2nd Symposium on "Contribution of Canadians of Polish origin to the development of Canada". In the plenary lecture A. Jablonski characterized five waves of Poles emigration in Canada (1870-1914, 1918-1939, 1939-1956, 1956-1981, 1981-2000). It is interesting that 38 million of Poles live in homeland and 14.5 million – abroad, of them in the United States - 10.6, Brazil - 1.8, Canada - 1.1. Lecturer recalled famous people such as Danuta Mostwin (1921-2000), Wsevolod Jakimiuk (1902-1991). Wsevolod Yakimyuk had Belarusian roots, he was the author of dozens of projects of different aircrafts as he was working at the De Havilland Canada. A. Jablonski cited some statistics that less than 2% of Canadian Poles participate in the affairs of public organizations and the proportion of Poles who speak their native language at home in Canada is reduced.

On November 16-18, 2017, Danyliw annual seminar on the problems of modern Ukraine was held at the University of Ottawa. Saturday was completely given over to the theme

"Art and Politics". The day began with a lecture of M. Sonevitski on the development of Ukrainian pop-singer Ruslana. In 2004, Ruslana won "Eurovision Song Contest". The author drew a parallel between the musical creativity of Ruslana and her civil position. Her work has evolved from the musical nationalism, auto-lexicon to sovereignty policy. It was very interesting presentation of new book by Mayhill Fowler "Beau Monde on Empire's Edge: State and Stage in Soviet Ukraine" (University of Toronto Press, 2017). The author uses an original approach - compares the life and work of pairs of writers or actors who in the interwar time left Ukraine and went to Moscow, and those who remained in Kiev, for example, Ostap Vyshnia - Ilf-Petrov, Kurbas - Mihoels. It was considered the work of the people in “the center" and "periphery", the languages used, the "permitted" and the real national culture, how dare in such different conditions the national identity was. Much of what she writes has been characteristic for the development of creativity of the Belarusian culture in the Soviet times.

The lecture by Anne Kutkina (the University of Helsinki) considered the destruction of the communist time monument in Ukraine ("Leninapad"). Process of monument destroing had several periods - ranging from vandalism to the official removal of monuments on the decision of the Ukrainian government. In Ukraine, there were about 5,500 monuments to Lenin, who were as a sign of the presence of Soviet power, especially in western Ukraine. The questions of monument destruction are not so simple.
People's thoughts on this matter are separated from "you are destroying our past" to "Glory to Ukraine" as a protest against the past. Negative point is the fact that the destroyed monuments have architectural and artistic values, and also the fact is that after the monuments cleaned, the pedestals remain as a reminder that there is something to think about. Now in Ukraine destroyed almost all Lenin monuments and to other communist activists. As an example of a different approach, Lithuania is leading, where such monuments were moved to specially designed parks.

*Важнейшыя юбілейныя даты ў жыцьці беларусаў у 2017*

**1155 год Полацку** (у 862 годзе ўпамінаньне ў “Летапісу мінулых год”)

**950 гадоў Мінску** (у 1067 годзе ўпамінаньне ў “Летапісу мінулых год”)

**655 гадоў** назад (1362) войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з Альгердам разграмілі аб’яднаныя сілы Залатой Арды на р. Сінія Воды

**500 годдзе беларускаму кнігадруку - у 1517 годзе Францыск Скарына надрукаваў першую беларускамоўную кнігу “Псалтырь”**

**490 гадоў** з дня нараджэння **Канстанціна Васіля Астрожскага**, палітычнага і культурнага дзеяча ВКЛ *(1527-1608)*

**400 гадоў** з часу заснавання (1617) гімназіі ў Слуцку, адной са старэйшых сярэдніх навучальных устаноў у Беларусі (з 1788 г. публічнае евангелісцкае вучылішча, з 1809 г. павятовае вучылішча, з 1827 г. гімназія, у 1868 – 1918 гг. класічная гімназія)

**375 гадоў** з дня нараджэння **Абуховіча Тэадора** (1642 – 1707), пісьменніка-мемуарыста, дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага

**255 гадоў** назад (1762) у Гродне заснавана балетнае вучылішча (існавала да 1785 г.)

**165 гадоў** назад (1852) тэатр В.Дуніна-Марцінкевіча паставіў у Мінску першую беларускую оперу “Сялянка” (“Ідылія”) (музыка С.Манюшкі і К.Кржыжаноўскага, лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча)

**155 гадоў** з часу выдання (1862) беларускага буквара (выдадзены ў Варшаве А.У.Аскеркам)

**135 гадоў** з дня нараджэння вялікіх песняроў беларускага народа, класікаў нацыянальнай літаратуры **Янкі Купалы і Якуба Коласа**

**110 гадоў** назад (1907) у Вільні створана выдавецтва “Нашай Нівы” (існавала па 1914 г.)

**110 гадоў** назад (1907) створана першая беларуская тэатральная трупа Ігната Буйніцкага (існавала па 1913 г.)

**100 год** ад пачатку працы **І-га Ўсебеларускага сходу** (сьнежань 1917)

**Calendar of important events in the life of the Belarusians in 2017**

**1155 years of Polotsk** (in 862 mentioned in the "Chronicle of Bygone Years")

**950 years of Minsk** (in 1067 mentioned in the "Chronicle of Bygone Years")

**655 years** ago, in 1362, troops of the Grand Duchy of Lithuania, led by **Alherd** defeated the combined forces of the Golden Horde on the river Blue Water

**500 anniversary of Belarusian book printing - in 1517 Frantsisk Skaryna printed the first Belarusian-language book "Psaltyr"**

**490 years** since the birth of Konstantin V. Astrorzsky (1527-1608)

**400 years** since the founding of gymnasium in Slutsk (1617), one of the oldest secondary schools in Belarus (from 1788 public evangelical school, a school district in 1809, in 1827 high school, in 1868 - 1918 Classical Gymnasium)

**375 years** since the birth of Abukhovich Theodore (1642 - 1707), writer, memoirist, a statesman of the Grand Duchy of Lithuania

**255 years** ago ballet school was founded in Grodno ((1762, it existed until 1785)

**165 years** ago, in 1852, theater placed in Minsk **the first Belarusian opera** "The Maid" ("Idyll") (music by S. Manyushka, K. Kryzhanouskaga, libretto by V. Dunin-Marcinkevich)

**155 years** since the publication (1862) of **Belarusian primer** (ABC) published in Warsaw by A.U.Askerka

**135 years** since the birth of the great poets of the Belarusian people, the classics of the national literature - **Yanka Kupala, Yakub Kolas**

**110 years** ago (1907) in Vilnius publishing house "Nasha Niva" was established (existed till 1914)

**110 years** ago (1907) the first Belarusian theater troupe I. Bujnitskaga was created

**100 years from the 1st All-Belarusian Congress (December 1917)**

Sources for calendar:
*http://moiro.by/index.php?option=com_k2&view=item&id=1935&Itemid=14&lang=be*
*https://biblioshtuchki.jimdo.com*

**Calendar of important events in the life of the Belarusians in 2017**
***("CULTURE. NATION", December 2017, issue 20, p.80-82;*** www.sakavik.net***)***

*Наступны 21-ты нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў сакавіку 2017 года*